—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
9
ЖНІЎНЯ
1991 г.
№ 32 (3598)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)





Дакацілася кола...

Фота А. КЛЕШЧУКА.

АДГАЛОСКІ

# БЫВАЙ, ЛЮБІМЫ ГОРАД?

На пачатку ліпеня ў тэлепраграме «Ліра», прысвечанай вынікам работы II з'езда ТБМ імя Ф. Скарыны, прагучала кароценькае інтэрв'ю з афіцэрам-беларусам падпалкоўнікам С. Суднікам, які прыехаў на з'езд з Казахстана. Ён распавёў пра беларускую школку ў горадзе, дзе служыць, пра дзейнасць суполкі ТБМ. Напрыканцы прагучала пытанне аб стаўленні падпалкоўніка да ідэі стварэння нацыянальнага войска. «Мы прыхільнікі гэтай ідэі», — спакойна адказаў вайсковец. Адчувалася, што для С. Судніка і яго калег-аднадумцаў пытанне аб нацыянальным войску вырашана адназначна.

Троххвіліннае інтэрв'ю прыгадалася праз некалькі дзён, калі «Комсомольская правда» змясціла сумнае для студэнтаў паведамленне аб магчымым скасаванні адтэрміноўкі ад прызыву ва Узброеныя Сілы СССР. У той жа дзень да нас у рэдакцыю прыйшлі два юнакі з нумарам «КП» у руках. «Як зрабіць так, каб мы служылі на тэрыторыі рэспублікі?» — прагучала з парога. Разгаварыўшыся з хлопцамі — студэнтамі БДУ — высветліў, што іх засмучае не так сама магчымасць прызыву, як прызыў у саюзнае войска, якое зганьбавала сябе «дзедаўшчынай» і злачынствамі ў Тбілісі і Вільні.

Падпалкоўнік С. Суднік выдае ў Казахстане газету «Рокаш», на старонках аднаго з нумароў якой змешчаны артыкул капітана І. Супаненкі «Рэспубліка. Суверэнітэт. Армія». Аўтар прытрымліваецца такой пазіцыі: «Абліччам сапраўднай дзяржавы з'яўляюцца тры яе галоўныя інстытуты: уласная знешняя палітыка, уласная эканамічная і фінансавая палітыка, уласныя Узброеныя Сілы. Толькі пры выкананні гэтых трох пунктаў можна гаварыць аб суверэннай дзяржаве... З той дзяржавай, якая здолела ўтварыць моцную армію і магла пастаяць за сябе не толькі дэкларацыямі і абвяшчэннямі незалежнасці, але і сілай зброі, пачыналі лічыцца і метраполіі, і суседзі... Цяпер... пытанне ўтварэння Узброеных Сіл выходзіць на першае месца, з'яўляецца карэнным пытаннем суверэнітэту. Праўда, цяпер, у адрозненне ад мінулай гісторыі, гэта пытанне можна вырашыць мірным парламенцкім шляхам. «Капітан І. Супаненка палемізуе з камандуючым ЧБВА генерал-палкоўнікам Кастэнкам, які ў інтэрв'ю «ЛіМу» (30.11.1991 г.) іранізаваў: «...Навошта ёй (Беларусі) мець нацыянальнае войска? Дзеля прэстыжу?» Афіцэр з Казахстана лічыць: «Так, дзеля прэстыжу, і не толькі ствараюцца арміі ў суверэнных дзяржавах. Такі дзяржаўны інстытут, як армія, патрэбен дзеля таго, каб падкрэсліць, што гэта не якая там вобласць ці аўтаномная акруга, а суверэнная дзяржава. Зрэшты, нішто так не паўплывае на нацыянальную свядомасць, як свая армія; гэта інстытут, дзе можна дасягнуць нацыянальнага адзінства».

У № 6 «Рокаша» з канкрэтнымі прапановамі аб фарміраванні Беларускага Войска выступае В. Сярпінскі. Першы этап, на думку аўтара, — служба прызыўнікоў з Беларусі на тэрыторыі рэспублікі (адно, дарэчы, з патрабаванняў страйкамаў). Яе павінен забяспечыць Вярхоўны Савет БССР. Другі этап — перадача МУС БССР частак унутраных войск СССР, якія знаходзяцца на нашай тэрыторыі, і фарміраванне першых часцей беларускага войска. Часткі Савецкай Арміі атрымліваюць двайное падпарадкаванне. Усе вышэйшыя чыны СА прызначаюцца ўрадам рэспублікі. Акрамя таго, уводзіцца нацыянальная мова і адзнакі. Гэтыя і іншыя прапановы павінен замацаваць Закон аб нацыянальным войску.

Калі параўнаць умовы прызыву ў Беларусі і ў нашых суседзяў, то ў Латвіі, напрыклад, з восені 1990 г. дзейнічае закон аб альтэрнатыўнай службе, паводле якога юнакі па жаданню накіроўваюцца не ў казармы, а ў пажарную ахову, бальніцы, на будоўлі. Студэнты на службу не прызываюцца. Рэспубліка Малдова мае аналагічны закон, толькі з удакладненнем матываў «альтэрнізацыі» (пацыфісцкіх, рэлігійных, палітычных). У Малдове і на Украіне з гэтага года ствараецца нацыянальная гвардыя. У Літоўскай Рэспубліцы з кастрычніка мінулага года служба літоўцаў у саюзным войску лічыцца службай замежнай дзяржаве. Каб быць прызваным ва УС СССР гэтай восенню, літоўскім юнакам трэба падаваць прашэнні ў мясцовыя органы ўлады. Ніякіх рэспубліканскіх ільгот яны і іх сем'і не атрымліваюць.

У такой сітуацыі Беларусь робіцца «палачкай-выручалачкай» Саюза, бо з ліпеня 1990 г. далей дэкларацыі права «на ўласныя Узброеныя Сілы» мы не пасунуліся. Заява Вярхоўнага Савета з просьбай не накіроўваць беларускіх хлопцаў у гарачыя пункты краіны прагучала як варты жалю «ўсхліп» перад саюзным кіраўніцтвам, у ваеннай палітыцы якога Беларусі адводзіцца то месца заходняга ядзернага «склепа», то роля «айчыннай кватэры» для часцей выведзеных з Усходняй Еўропы. Таму, калі будзе прыняты саюзны «Закон аб усеагульным воінскім абавязку», што ў гэтыя дні фарсіруецца, студэнтаў рэспублікі чакае прызыў. І зусім верагодна, што яны складуць большасць у ротах і батальёнах Савецкай Арміі.

Засмучае, што ваеннае пытанне ў Беларусі не набыло яшчэ належнага гучання. Прынамсі, радыкальна яно пастаўлена толькі ў Заяве Цэнтральнай Рады БСДГ ад красавіка г. г., у якой гаворыцца аб неабходнасці «стварэння ўласнай сістэмы рэспубліканскай бяспекі, першым крокам да чаго магло б стаць стварэнне ў складзе Узброеных Сіл СССР дэпалітызаваных вайсковых злучэнняў з ліку грамадзян ці нараджэнцаў рэспублікі». Можа, хуткае скліканне Беларускай Вайсковай Рады, якое рыхтуюць беларускія вайскоўцы за межамі рэспублікі, паўплывае на мысленне дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР і надасць ваеннаму пытанню практычны сэнс.

**Юрась ЗАЛОСКА.**

НОВЫЯ ВЫДАННІ

# Часопіс «ДЕЛО»: паміж Усходам і Захадам




**«Часопіс міжнароднага супрацоўніцтва з Беларусі», — так пазначана пры загалоўку гэтага выдання, так ахарактарызаваны асноўны напрамак яго дзейнасці. На пытанні «ЛіМа» адказвае галоўны рэдактар новага часопіса «Дело» Віктар ЖУК.**

**— Віктар Мікалаевіч, чаму ваш часопіс выйшаў менавіта сёлета і якія мэты вы ставіце перад сабою?**

— Паводле прынятай летась Дэкларацыі аб незалежнасці, Беларусь сёння — суверэнная дзяржава. І гэта дзіўна, што наша рэспубліка дагэтуль не мае за мяжой сваёй «візітоўкі». Пра Беларусь там амаль нічога не ведаюць. Наш міністр замежных спраў Пётр Краўчанка расказваў мне, што ў Амерыцы яго перапытвалі: «Беларашен» гэта хто? «Белогвардейцы»? Таму наша галоўная мэта — прадстаўляць Беларусь за яе межамі.

**— Зыходзячы з гэтага зразумела, чаму часопіс выходзіць на рускай і англійскай мовах. «Дзелавыя людзі», бізнесмены заўсёды лічыліся ў нас звышінтэрнацыяналістамі. Але што ў такім разе ў ім будзе адметна беларускага?**

— Наша выданне разлічана на рэспублікі Саюза і замежныя краіны, а руская і англійская мовы пакуль застаюцца мовамі міжнацыянальных зносін. Зараз паміж рэспублікамі Саюза адбываецца стварэнне адзінай эканамічнай прасторы, і Беларусь павінна заняць у гэтай прасторы адпаведнае ёй месца, «свой пачэсны пасад між народамі» ў галіне знешнегандлёвых сувязей з усім светам. Да таго ж, «дзела» — слова не толькі рускае, ім карыстаўся ў сваіх творах Якуб Колас. І мы таксама працуем са словам дзеля справы. І гэтую справу мы яднаем са своеасаблівай рэкламай Беларусі ў свеце. Апроч функцыянальнай інфармацыі, змяшчаем матэрыялы па гісторыі і мастацтву. А выданне варыянту нашага часопіса на беларускай мове будзе залежыць ад таго, як пойдзе ягоная падпіска на Беларусі. Пакуль што ў канцы кожнага нумара змяшчаецца анатацыя асноўных матэрыялаў па-беларуску.

**— Чым, на ваш погляд, адрозніваецца «Дело» ад іншых беларускіх часопісаў?**

— Тым, што ён разлічаны пераважна на дзелавых людзей. Часопіс «Беларусь», напрыклад, у якім я працаваў восем гадоў, наўрад ці пойдзе за мяжой значным накладам... Бо там трэба прапаноўваць тавар. Такія выданні, як «Голас Радзімы», па сутнасці, з'яўляецца падарункавым выданнем. Нашы землякі за мяжой людзі не надта багатыя, і разлічваць, што яны будуць падтрымліваць часопіс толькі таму, што ён беларускі, наіўна. А тая фірма, з якой мы супрацоўнічаем, займаецца бізнесам, але ніяк не дабрачыннасцю. Мне каштавала шмат сіл і нерваў пераканаць амерыканцаў, што раздзелы са зместам пра беларускую культуру і гісторыю патрэбны.

**— У выданні «Дела» ўдзельнічаюць выдавецтва «Беларусь» і амерыканская фірма «Пэнберти Энтерпрайзес, Инк». Хто больш рызыкуе ў сённяшнім нестабільным свеце, укладваючы грошы ў часопіс?**

— Рызыкуюць абодва бакі. Прынамсі, пераважную частку ўкладвае ў справу выдавецтва «Беларусь». Тое ж і з інфармацыяй. Толькі 30—40 працэнтаў зместу, інфармацыі для беларускіх бізнесменаў, плануем атрымліваць ад замежных партнёраў. Наш часопіс можна было б яшчэ назваць «Мост», у сэнсе — інфармацыйны. Мы працуем у два бакі. Ды й сама Беларусь, ці ж гэта не мост паміж Усходам і Захадам?

**— Хто прыйшоў працаваць у ваш часопіс?**

— Людзі, якія добра ведаюць сваю рэспубліку, і якія жадаюць ёй дапамагчы. Нашы журналісты павінны ведаць, акрамя беларускай, яшчэ і англійскую мову. Мне, на жаль, ужо даводзілася чуць, што выданне «Дела» робіцца толькі дзеля таго, каб зарабіць шалёныя грошы. Але, калі б мы сапраўды прагнулі шалёных грошай, мы б выдалі не «Дело», а «Тело». На звычайнай эротыцы зарабілі б нядрэнна. Але ў нас іншая мэта. Мы жадаем працаваць дзеля карысці Беларусі.

**Гутарыў Ягор КОНЕЎ,**
**студэнт факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна.**

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# Ці загаворыць па-беларуску «7 дней»?

Здаўна павялося так, што сфарміраваныя пад жорсткім кантролем «кіруючай і накіроўваючай», дзяржаўныя структуры Беларускай ССР ажыццяўляюць свае функцыі на мове народа-суседа, не ўжываючы мову карэннай нацыі. Імя яе, тым не менш, традыцыйна прымацоўваецца да найменняў адпаведных партыйных ды дзяржаўных органаў і ўстаноў. Адной з такіх дзяржаўных структур, якая жорстка падпарадкаваная партыйна-дзяржаўнай наменклатуры і якая, трэба лічыць, выказвае яе інтарэсы, з'яўляецца Беларускае тэлеграфнае агенцтва, што два гады назад заснавала друкаваны *орган — штотыднёвік* «7 дней».

У сярэдзіне 1990 года выданне *шукала «свой голас»,* і ў шэрагу выпускаў давала «пакет» усебаковай і даволі праўдзівай інфармацыі з жыцця рэспублікі, а таму і сабрала значную колькасць падпісчыкаў на 1991 г. Аднак і многія чытачы, і аўтар гэтых радкоў не маглі не заўважыць, што ў перыяд і напярэдадні XXXI з'езда КПБ штотыднёвік рэзка змяніў накірунак.

Верагодна, пад уціскам тых жа недэмакратычных сіл рэдакцыя газеты адмовілася і ад выпуску беларускамоўных старонак, і ад выдання беларускамоўнага адпаведніка, хаця і Савет Міністраў, і кіраўніцтва рэдакцыі неаднаразова даводзілі чытачам, што такое выданне гарантуецца.

І вось, каб захаваць аблічча ў абставінах, калі ўступіў у сілу Закон аб мовах у Беларускай ССР, рэдакцыя зрабіла «ход канём»: абвясціла «суверэнітэт», самастойнасць, спаслаўшыся на правы, прадастаўленыя Законам аб друку. Такім чынам, на думку ініцыятараў адмысловай «рэарганізацыі», таму-сяму з адказных асоб Савета Міністраў БССР даецца магчымасць пазбегнуць адказнасці за ігнараванне **дзяржаўнай беларускай мовы.**

Паважаны рэдактар штотыднёвіка «7 дней» А. Пранішнікаў не знаходзіць нічога іншага ў пацвярджэнне сваёй самастойнасці, як даводзіць, што выданне ў 1990 і 1991 гадах стала самаакупным і нават... плаціць падаткі за прыбытак. Рэдактар нават пакляўся, што не залежыць ад «грашовага мяшка і ўтрымання» (гл. «7 дней» № 20), хаця ў залежнасці дзяржаўнага органа ад дзяржавы няма ніякага сораму. Вось калі пад выглядам дзяржавы «грашовым мяшком» распараджаецца палітычная партыя і яе крэатура, гэта іншая справа...

Аднак давайце ўсё ж палічым грошы (і дзяржаўныя матэрыяльныя рэсурсы), тым больш, яны не ў «чужой кішэні» (як сцвярджае А. Пранішнікаў), а ў грамадскай. У гэтай сувязі я задаю А. Пранішнікаву тыя ж пытанні, на якія не даў адказу Старшыня Савета Міністраў Беларускай ССР В. Кебіч у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета БССР. Гэта быў той самы *першы* дзень сесіі, пра які згадвае рэдактар «7 дней» у сваёй публікацыі ў штотыднёвіку за нумарам 21. За чые грошы выходзілі ў свет нумары газеты да абвяшчэння рэдакцыяй «суверэнітэту», г. зн. хто стварыў статутны фонд выдання, забяспечыў яму рэкламу і падпіску, вынікі якой і дазволілі штотыднёвіку стаць самаакупным? З якой «кішэні» бяруцца 8 мільёнаў 732 тысячы кв. м. паперы, якая адпушчана Дзяржэканомпланам БССР па ліміту і па д з я р ж а ў н ы х цэнах на 1991 год штотыднёвіку «7 дней»? Як вядома, «самастойныя», не дзяржаўныя выданні не забяспечваюцца паперай па ліміту і па дзяржаўных цэнах, а, за рэдкім выключэннем, купляюць яе па рынычным кошце (да 10 тыс. рублёў за тону). Пытанні такога характару можна працягваць...

Між іншым, «на волю» партыйна - дзяржаўная наменклатура адпускае толькі тых, хто ёй аддана служыць. Аб гэтым сведчыць і лёс «Знамени юности», дэмакратычнага выдання, якое мае звыш паўмільёна падпісчыкаў і яшчэ больш удзячных чытачоў. *Калі* паважаны А. Класкоўскі супольна з рэдакцыйным калектывам «Знаменки» паставілі перад арганізацыяй - заснавальніцай газеты пытанне ў адпаведнасці з Законам аб друку аб той самай самастойнасці, пра якую так хараша распавядаў А. Пранішнікаў, то атрымалі такі «адлуп», што рэдактар застаўся без працы, а рэдакцыйны калектыў аказаўся перад пагрозай накаута.

**Яўген ЦУМАРАЎ,**
**народны дэпутат**
**Беларускай ССР.**

# Адказ «спецыялісту»

У артыкуле «Если отбросить дилетантскую риторику...» («Народная газета» № 129 (142) ад 5.7.1991 г.) палкоўнік Валерый Паўлаў спрабуе быццам бы прафесійна адказаць «дылетантам», што вядуць размову пра нацыянальнае беларускае войска. Так, тэма гэтая актуальная, складаная, таму трэба цвяроза, без эмоцый разабрацца ў сутнасці пытанняў, якія ён закрануў.

Трэба падкрэсліць, што спрэчка ідзе не паміж «дылетантамі» і «спецыялістамі». Не! Сутыкнуліся процілеглыя, антаганістычныя погляды, якія з аднаго боку адлюстроўваюць інтарэсы імперскага цэнтра, а з другога — інтарэсы беларускага народа. Дзіўна, што В. Паўлаў бярэ на сябе адказнасць самому вызначаць, што патрэбна менавіта Беларусі, а што непатрэбна, пры гэтым смела выдае інтарэсы імперыі за інтарэсы беларускага народа.

Не буду спрачацца з пытаннем: ці патрэбнае сёння дзяржаве войска наогул? Напэўна, усё-такі пакуль патрэбнае. А вось са словамі пра тое, што хворае войска апынулася «...в эпицентре разнузданного шельмования, клеветы...», згадзіцца не магу. Бо гэта не так! Недахопы і хваробы войска цалкам адлюстроўваюць хваробы тае сістэмы, што пануе ў краіне на працягу 73-х гадоў. Яны ёсць натуральны вынік дзейнасці камуністычнага кіраўніцтва краінай і войскам. І дарэмна аўтар пачынае артыкул састарэлай ужо «песняй» на словы нашых генералаў. Не пераканаўча! Паверыць гэтым «песням» здольны толькі той, хто не служыў у войску, не ведае вайсковага жыцця.

Больш спрэчак выклікае пытанне пра ўласнае беларускае войска. В. Паўлаў сцвярджае, што гэтае войска «...нельзя иметь чисто по политическим мотивам, т. к. эта армия будет использоваться как инструмент для достижения сугубо внутренних целей», і спасылаецца пры гэтым на прыклады Балтыі і Закаўказзя: «Национальные вооруженные силы — мощный рычаг удержания власти на местах». Сапраўды так! Таму гэтыя войскі і непатрэбныя імперыі, але вельмі неабходныя рэспублікам. Хто ж абароніць іхні дзяржаўны суверэнітэт? Толькі сваё нацыянальнае войска! Бо міліцыя, нат першакласная, задачы абароны выканаць няздольная.

Далей аўтар піша, што трымаць нацыянальнае войска «...невыгодно экономически... По силам, а главное, нужно ли это народу Белоруссии, если его труд защищён и так?» І тут не магу з ім пагадзіцца. Ці ж Цэнтр сам без рэспублік зарабляе грошы на ўтрыманне сваіх узброеных сіл? Ён жа збірае «даніну» з рэспублік на свае патрэбы, у тым ліку на войска. І з Беларусі таксама. Вось гэтыя грошы, толькі ў значна меншай колькасці пойдуць на беларускае нацыянальнае войска. Маюць жа сваё войска Балгарыя, Венгрыя, Швецыя і нават Люксембург.

Будзе Беларусь мець сваё ўласнае войска, тады ніколі не стане ні «ўсходнімі крэсамі», ні «Северо-Западным краем». Я лічу, што сёння трэба разглядаць гэтую праблему толькі так.

Што ж да суадносінаў Беларусі з Цэнтрам пры вырашэнні пытанняў абароны і бяспекі, дык іх трэба адмыслова абумовіць на пераходны перыяд ад агульнасаюзных узброеных сіл да ўласнага нацыянальнага войска.

**Ігар ПАЎЛОЎСКІ,**
**палкоўнік запасу,**
**сябра каардынацыйнага**
**камітэта Маскоўскага**
**згуртавання**
**беларусаў-вайскоўцаў.**

# Нас зразумелі і падтрымалі

Аб Талінскім міжнародным фестывалі харавой музыкі, які адбыўся з 1 па 7 ліпеня, «ЛіМ» паведамляў, але, вядома, цяжка было ў адным артыкуле поўна расказаць пра фестываль і яго ўдзельнікаў.

Упушчана галоўнае — прадстаўнікамі Беларусі на свяце былі пяць харавых калектываў з Мінска: студэнцкі БДУ, Дзяржаўны камерны, Акадэміі навук БССР, педагагічнага інстытута замежных моў і хор настаўнікаў. Хочацца дадаць тое-сёе да лімаўскай публікацыі «Наш сцяг ля Старога Тоомаса» ад 19 ліпеня г. г. Па-першае, усіх, хто ў тыя дні прыехаў з Беларусі ў Талін, *хваляваў лёс арганізаванай там* выставы «Беларускі дом». На жаль, Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» на чале з Я. Лецкам адасобілася ад кантролю і дапамогі гэтаму «кутку беларускасці» ў дні фестывалю. Арганізацыю «Дома» ўзяла амаль поўнасцю на сябе Галерэя беларускіх мастакоў. Па-другое, вышэйназванае згуртаванне нават не пацікавілася аб непасрэдных удзельніках *свята — харавых калектывах* з Беларусі. У выніку — перад урачыстым шэсцем прадстаўнікоў па вуліцах горада мы апынуліся (як і хары Расіі) без сваіх дзяржаўных альбо нацыянальных сімвалаў. І— толькі дзякуючы ўсё тым жа мастакам, нам удалося прайсці шэсце з годнасцю пад бел-чырвона-белым сцягам. І не раз мы бачылі слёзы на вачах і чулі вітанні: «Vivat Valgevene!», «Жыве Беларусь!». *Луналі* сцягі і над Спеўным полем, гучалі нашы песні, наш адраджэнскі дух, наша адзінства. І нас пачулі, зразумелі і падтрымалі не толькі суайчыннікі, але і 400 тысяч прысутных.

**А. ГАЛІЧ.**

# Звяртаюся па дапамогу

Я ўжо не ведаю, хто мне можа дапамагчы, звяртаўся да многіх, аднак без вынікаў.

Я — вучоны, кандыдат навук, дацэнт. Больш пятнаццаці гадоў даследаваў гісторыю дойлідства на Беларусі, сабраў шмат архіўных матэрыялаў, якія сведчаць аб тым, што ў архітэктурных адносінах у XVI — першай палове XVII ст. мы не саступалі многім краінам Еўропы. Архітэктуру нашай зямлі вызначаў Рэнесанс, якім пазначаны былі не толькі розныя будынкі, але і планіроўка гарадоў і мястэчак. У час, калі стваралі Скарына, Будны, Цяпінскі і іншыя дзеячы беларускага Адраджэння, дойлідства Беларусі таксама дасягала найвысокіх нацыянальных вяршыняў.

Усё гэта я напісаў у сваёй будучай кнізе «Дойлідства Беларусі XVI — сярэдзіны XVII ст.». Прыняло яе да друку выдавецтва «Навука і тэхніка». Кнігагандаль вызначыў тыраж 3 тыс. экз. Значыць, кніга стратная.

У лютым г. г. была зроблена вёрстка. Я яе вычытаў, адвёз у рэдакцыю. Там мне сказалі, што для выдання кнігі трэба заплаціць выдавецтву 21 тысячу рублёў. У мяне такіх грошай няма. Я звяртаўся па дапамогу да розных арганізацый, але паразумення не знайшоў. Адмовіўся ад будучага ганарару ў надзеі, што гэта дапаможа выданню.

І вось цяпер стварылася такая сітуацыя, што набор кнігі можа быць раскіданы. Увогуле можна падумаць, што такая кніга патрэбна толькі мне, яе аўтару, а не тым, каму дарагія гісторыя Беларусі, яе нацыянальнае адраджэнне.

Мне тлумачылі, што выдавецтва перайшло на самафінансаванне і самазабяспечанасць, і таму стратныя кнігі яны друкаваць не будуць. У той жа час кааператары выдаюць, што хочуць, бо ў іх ёсць грошы. Хіба гэта справядліва?

Дык, можа, знойдзецца хоць адна душа, зацікаўленая ў выданні такой кнігі, як мая? Можа, не ўсё яшчэ страчана?

**Ю. ЯКІМОВІЧ,**
**кандыдат архітэктуры,**
**дацэнт Віцебскага**
**педагагічнага інстытута,**
**член Саюза архітэктараў**
**СССР.**

**ВІНШУЕМ!**

Вядомаму крытыку і літаратуразнаўцу, аднаму з пастаянных аўтараў «ЛіМа» Паўлу Дзюбайлу — 60. Ад усяго сэрца віншуем Паўла Кузьміча з юбілеем, жадаем яму новых творчых поспехаў.



Павел ДЗЮБАЙЛА

# ЯКАЯ ЯНА, НАША СУЧАСНАСЦЬ?

## Па старонках часопіснай прозы

**Усё больш чытачоў і крытыкаў схіляюцца да думкі, што галоўная сфера для літаратуры — духоўная, гуманістычная. Аднак было б наіўным думаць, што новая літаратура, якая сваёй галоўнай задачай будзе лічыць спасціжэнне агульначалавечых, маральных, духоўных каштоўнасцей, здолее адарвацца ад пэўных сацыяльных рэалій, сягне ў сферы духоўных абстракцый. Ад гістарычна-канкрэтнага да агульначалавечага — іншага шляху няма і ў філасофскім, і ў мастацкім пазнанні, у мастацкай творчасці. І на гэтым шляху вопыт савецкай літаратуры (і пазітыўны, і негатыўны) вельмі павучальны.**

У гісторыі літаратуры былі самыя розныя перыяды, былі прылівы і адлівы, узмацнялася або спадала цікавасць да ўласна мастацкай літаратуры. Цяпер мастацкая літаратура знаходзіцца як бы на раздарожжы, на перагрупіроўцы. Гэта час, калі адмаўляюцца складзеныя ў мінулых дзесяцігоддзях эстэтычныя схемы, літаратурныя напрамкі, калі новыя тэндэнцыі і заканамернасці раскрываюцца яшчэ слаба. Ідзе вельмі вострая літаратурная барацьба, якая выяўляецца нярэдка не ў адстойванні канцэпцый, ідэй, шуканні ісціны, а больш у амбіцыйнасці і групавай варожасці крытыкаў і пісьменнікаў.

І ў такой атмасферы, натуральна, абмяркоўваюцца не так праблемы ўласна літаратуры, сучаснай літаратурнай сітуацыі, колькі праблемы ідэалагічныя, пытанні ўзаемаадносін самых розных літаратурных груповак.

Сённяшняя літаратурная панарама вельмі стракатая. Прыходзяць думкі аб тым, што літаратурны працэс як бы супыніўся, разладзіўся, што нельга ў ім зараз выявіць пэўныя тэндэнцыі. У наяўнасці як бы толькі калейдаскапічная мазаіка літаратурных твораў. І ўсё ж літаратура жыве, пры ўважлівым яе асэнсаванні можна выявіць агульныя рысы ў яе развіцці.

Цяпер публікуецца ўсё: творы пісьменнікаў - эмігрантаў, творы, якія раней не друкаваліся па тых або іншых прычынах, эратычныя, рэлігійныя і інш. І ўсё гэта ў адзінай масавай плыні. Таму так цяжка разгледзець у гэтай плыні ўласна мастацкую, сапраўдную літаратуру.

Як жа рэагуе на ўсё гэта беларуская проза, ў прыватнасці, проза, якая непасрэдна ўзнаўляе нашу сучаснасць? Які мастацкі ўзровень твораў, іх гуманістычны патэнцыял?

Як заўсёды праблемы сучаснасці ў цэнтры ўвагі І. Шамякіна. Гэта характэрна і для апошняга яго рамана «Злая зорка». Пісьменнік нярэдка паказвае сферы жыцця, вельмі далёкія ад яго жыццёвага і духоўнага вопыту. І гэта, вядома, ускладняе спасціжэнне і ўзнаўленне тых або іншых сітуацый, чалавечых характараў.

Даць адназначную ацэнку рамана І. Шамякіна цяжка, ды ў гэтым, відаць, і няма вялікай патрэбы. Твор напісаны па гарачых слядах падзей, у ім пастаўлены вострыя надзённыя праблемы. Аднак справядліва і тое, што залішне ў ім звычайнай павярхоўнай белетрыстыкі, публіцыстыкі, не стае аналітычнага псіхалагізму. Звязаць трагедыю Чарнобыля і Афганістана арганічна і трывала не ўдалося. Патрабавалася больш глыбокае сацыяльна - філасофскае асэнсаванне гэтых падзей.

В. Гігевіч у аповесці «Палтэргейст» імкнуўся да таго, каб падрабязна і дакладна апісаць здарэнне, што адбылося ў Барысаве, (у творы — Бярозаве) і пра якое некалькі гадоў таму назад пісалася ў газетах. Прынамсі, сам аўтар нас у тым пераконвае: «Хачу запэўніць шаноўных чытачоў, што гэтыя, як і наступныя газетныя выразкі, артыкулы, цытаты, што будуць прыводзіцца ніжэй, рэальныя. Зменены толькі дзе-нідзе асобныя прозвішчы, апушчаны неістотныя факты і дэталі». Вядома, што гэта толькі хітраваты пісьменніцкі прыём, бо калі б у пісьменніка не было іншай звышзадачы, то не было б і мастацкага твора.

**З праявамі палтэргейста — рух, кулянне і палёт прадметаў і мэблі, перанос пасцелі, выскокванне электрапробак і інш. — не могуць справіцца ні жыхары дома Люба і Юзік Кругавыя, ні міліцыя на чале з начальнікам аддзела ўнутраных спраў, падпалкоўнікам Селівановым. Не могуць вытлумачыць гэтыя праявы і вучоныя акадэміі навук. Вось тут і адкрыліся вялікія магчымасці для пісьменніка: незласліва, часам грубавата пацяшаючыся, паказаць жыццё-быццё Кругавых, у іранічна-сатырычным плане апісаць бюракратычна-адміністрацыйны стыль працы ахоўнікаў грамадскага парадку і асабліва вучоных. Для навукоўцаў В. Гігевіч знаходзіць ужо нават гратэскныя фарбы. Наогул, літаратурныя крытыкі і навукоўцы невядома чаму даўно ўжо сталі сатырычнымі персанажамі ў творах пісьменніка. У аповесці знітаваны сцэны сацыяльна-бытавыя, службова-адміністрацыйныя з выняткамі, цытатамі з газет і часопісаў, з выступленнямі і дакладамі на нарадах. Атрымаўся своеасаблівы твор з выразна выяўленымі сатырычна-гратэскнымі рысамі.**

**Ну, а што да палтэргейста і яго праяў, якія імкнуліся вытлумачыць і выхадкамі прышэльцаў незямных цывілізацый, і дзеяннямі нячыстай сілы, і аб'ектыўнымі прычынамі, то сам пісьменнік не дужа ўнікае ў розныя довады. У канцы аповесці з лёгкім гумарам паведамляецца:: «У хаце Кругавых электрапробкі больш не вывінчваюца і на памост не падаюць, падушкі не лётаюць, талеркі і міскі ляжаць спакойна...»**

**Ну, а што да герояў аповесці Любы і Юзіка, то яны ўжо спакойна адносяцца да таго, што адбылося. На пытанні рэдка адказвалі, часцей смяяліся. Юзік казаў: «Усяго, браток, і не скажаш, што на свеце між людзьмі бывае...» А бяздзетная Люба нарэшце нарадзіла хлопчыка. Такая дэтэктыўна-прыгодніцкая, сатырычна-гумарыстычная аповесць напісана В. Гігевічам. Яна нагадвае творы У. Някляева «Вежа», маладога празаіка А. Федарэнкі «Смута, альбо 12 фантазій на адну тэму». Паступова складваецца своеасаблівая плынь у нашай прозе.**

У аповесці А. Федарэнкі выяўляюцца цікавыя пошукі новых магчымасцей прозы ва ўзнаўленні складанай, часам цяжка вытлумачальнай сучаснасці. Аўтар вызначыў жанр твора як «аповесць - фантасмагорыю», хоць у ім на сённяшні дзень фантастычным з'яўляецца толькі японскі камп'ютэрны гадзіннік - «компас», на экране якога можна ўбачыць каго б ні захацеў уладальнік. Зрэшты, многія з'явы ў нашым жыцці сёння ўяўляюцца як фантасмагорыі. З аднаго боку, галоснасць, плюралізм, дэмакратызацыя, з другога — злачыннасць, падзенне нораваў, усёдазволенасць і г. д. Так усё і ўспрымаюць навучэнцы, настаўнікі Гімназіі Новага Тыпу, яе дырэктар Расолька. А яшчэ дзейнічае і старая сістэма, увасабляе яе журналіст Джынсавы-Прэсавіч, навучэнец, даносчык Міхлін. Дзе выхад? Праз жорсткія меры вяртацца да парадку, народнай маралі і этыкі? А можа, ехаць у зону, на поўдзень Беларусі, жыць натуральным жыццём у вёсцы? Так і зрабілі былыя члены Партыі Паляпшэння Побыту. Там цэлая вёсачка. «Есць два кані, садзім бульбу, возім самі сабе дровы — усё робім, як колісь... Нават дзеці ёсць, адно ў зоне нарадзілася — абсалютна нармальнае дзіця. Вось настаўнік трэба».

Вядома, гэта ілюзорны выхад для герояў, але іншага ў наш пераходны, складаны час яны не бачаць.

У аповесці А. Федарэнкі спалучаюцца — праўда, не заўсёды ўдала і арганічна — элементы сацыяльна - бытавой і сатырычнай фантастычнай і дэтэктыўнай прозы. Цяжка паддаецца мастацкаму ўзнаўленню і вытлумачэнню наша сучаснасць. Тут сапраўды патрэбна выпрабаванне самых розных мастацкіх прыёмаў.

Дрэнна, што нярэдка маладыя пачынаюць з усярэдненай бясколернай мовы, звычайных абжытых белетрыстычных, а часам і меладраматычных прыёмаў (такія, напрыклад, апавяданні У. Гаўрыловіча), празмерна захапляюцца «вытворчымі» праблемамі (аповесць «Дзе логіка?» І. Пяшко).

У аповесці І. Пяшко малады супрацоўнік раённай газеты Міхась Вашко выкрывае нядбайных работнікаў гандлю, сельскай гаспадаркі, расказвае пра іх кур'ёзныя, бюракратычныя і нават шкодныя справы. Расказвае—і ўсё. Пісьменнік не даходзіць да каранёў гэтых праяў, да псіхалогіі свайго героя і тых «антыгерояў», якіх ён выкрывае. Пакуль што ў І. Пяшко пераважаюць чорна - белыя фарбы, якіх недастаткова, каб паказаць усю складанасць сучаснага жыцця і чалавечай асобы, не адчуваецца хоць якіх памкненняў да псіхалагічнага раскрыцця духоўнага свету чалавека.

Складзеныя праблемы з жыцця сучаснай моладзі асэнсоўваюцца ў аповесці І. Жарнасек «Мона Літа». Літа — семнаццацігадовая навучэнка музычнага вучылішча — выхоўвалася ў забяспечанай мяшчанскай сям'і (бацька яе — дацэнт). Калі ж Літа зацяжарыла, бацькі ўсё рабілі, каб аб гэтым ніхто не даведаўся, адвезлі яе ў раённы гарадок, дзе яна нарадзіла дзіця і адмовілася ад яго, стала «зязюляй». А яе каханы Ігар толькі гэтага і дамагаўся: ён з такой жа сям'і, і яму, студэнту, лічыць ён, перш за ўсё патрэбна закончыць інстытут з чырвоным дыпломам. Маўляў, я не хачу, каб зламаўся і мой, і твой лёс». «Калі ж пра тое ж ёй даводзілі маці, бацька, баба Зоя, яна крычала, што яны жорсткія і што заміж сэрцаў у іх... Калі ж сказаў Ігар, болей не сумнявалася: вядома ж, з дзіцем яна не скончыць вучылішча, тым больш—не паступіць у кансерваторыю. Якая ўжо там кансерваторыя! Якая музыка».

Адбылося самае жорсткае ў свеце: маці адмаўляецца ад свайго немаўляці, каб не пазбавіцца спакойнага, утульнага жыцця. Так, гэта не рэдкая з'ява сёння. І гэта страшна. Пачынае разумець ненармальнасць свайго ўчынку і Літа. «Мне страшна, Ігар, — прашаптала Літа. — Мне страшна. Часам здаецца, я не на сваім месцы—на чужым, а маё недзе пустуе і яшчэ чакае мяне. Я зрабіла злачынства і павінна сядзець за кратамі, а не піць віно ў кавярні».

Савецкі суд гуманны, «зязюлек» не садзяць за краты, але калі ў іх засталася хоць кропля сумлення, ім будзе цяжка жыць, будзе ўсё жыццё адбывацца маральны суд, суд жанчыны над самой сабой.

**Гэты суд для Літы прыспешваецца таму, што ёсць у яе знаёмыя, якія былі пакінуты бацькамі, былі сіротамі пры жывых бацьках, выраслі непрыкаянымі, але ў іх за знешняй бравадай і цынізмам жыла дабрата і спачуванне да ўсіх абяздоленых. Такі Валерка, па мянушцы Скліз. Ён з'едліва гаворыць Ліце: «Вы яму пасля раскажаце, як не маглі ўстанавіць, хто тут болей нашкодзіў, як вам хацелася пагарцаваць, а тут заверашчаў ён, недарэка-кукарэка. Жадаю вам усім сустрэцца гадкоў праз дзесятку. Не верыш? Свет цесны, Аэліта, і ты пакуль не ў космасе... я зычу вам сустрэцца... на канцэрце. А што? Сядзіш ты ў Сафійскім саборы і атрымліваеш сваю чарговую порцыю цудоўнага, побач — муж, Мэр, напрыклад. Чаму б вам не пажаніцца? Дзяцей яму новых нараджаеш. Дык вось, седзіцё і паціху пушчаеце слёзы — шчырыя-шчырыя, светлыя-светлыя... Побач — дзеткі з банцікамі. І раптам з-за калоны над вашымі галовамі пралятае гнілая памідорына! І — чмяк у натхнёны твар музыкі! Альбо ў абраз. Людзі гатовыя разадраць на дробныя шматкі таго хулігана, а вы з Мэрам раптам бачыце, што той абармот надта ж падобны на вас. Ну як? Нішто карцінка?»**

**Літа не вытрывала, паехала па сына, але яго ўжо ўсынавілі і забралі чужыя, добрыя людзі, і ніхто не меў права сказаць дзе яны жывуць. Як дакор і прыгавор гучаць словы медсястры:**

**«Калі ж вы паразумнееце? Што ж вы, як тыя кацяняты — дурныя ды сляпыя? Як на дурное, дык не вагаецеся, раз—і гатова. І не пярэч вам! І не павучы! А як добрае, дык думаеце, думаеце... Усё каб не прагадаць — дужа ж баіцеся лішні крок ступіць. Божа мілы, ці ж можна думаць пра гэткае, ці ж можна выбіраць? Чаму ж вы гэткія... бессардэчныя? Злыя вы! Злыя!»**

Праблемы, пытанні пастаўлены. А як іх вырашаць — пра гэта будзе думаць чытач.

Цяжка сучаснаму чалавеку зміры́цца з усюдным адчужэннем — у грамадстве, на працы, дома, цяжка пагадзіцца, што ўжо ў жыцці нічога незвычайнага не будзе, а будзе як у зачараваным коле — дом, работа, дзеці, тэлевізар... Аб гэтым сентыментальна - мінорнае апавяданне М. Філіповіч «Поні бегае па крузе».

Аб чым сведчаць згаданыя тут творы і сённяшняя проза наогул? Пэўныя зрухі ў самасвядомасці літаратуры ёсць. Менш стала сацыялагічнай ілюстрацыйнасці і дэкларацыйнасці. Аднак інерцыя яшчэ вельмі моцная, многія пісьменнікі па-ранейшаму знаходзяцца ў палоне звыклых схем і шаблонаў.

---

БЕЛАРУСКАЕ пісьменніцкае замежжа — амаль невядомая для нас зямля.

Адкрыццём для айчыннага чытача з'яўляюцца сёння вершы, паэмы, раманы Масея Сяднёва — аднаго з найбольш таленавітых прадстаўнікоў беларускай пісьменніцкай эміграцыі. Яго кнігі паэзіі «Патушаныя зоры», «Ачышчэньне агнём», «А часу больш, чым вечнасьць», раманы «І той дзень надышоў», «Раман Корзюк», якія ён падараваў нашай нацыянальнай бібліятэцы ў час свайго наведвання Беларусі ў маі 1990 г., уведзены ў адкрыты фонд і іх ужо можна прачытаць.

Няма патрэбы ідэалізаваць эмігранцкую літаратуру, яна вымагае аб'ектыўнага вывучэння і аналізу. Яе здабыткі, вядома ж, не могуць пераважыць зробленае пісьменнікамі на радзіме, аднак несумненна, што беларуская літаратура з уключэннем у яе працэс многіх недазволеных раней імёнаў, стане нашмат багацейшай.

Праз усё, што створана М. Сяднёвым, праходзіць нязменны матыў адданасці і любові да матчынай мовы, роднай зямлі, якая была такой нялаcкавай да паэта («як мне цябе, радзіма, не хапала! Якою я згараў журбой!»). Ён усім сваім жыццём і творчасцю выпакутаваў права спытаць: «Суродзічы мае... Ды голас мой пачуеце вы, шчыры і адданы?» — і быць пачутым. Яго паэзія вабіць перш за ўсё нацыянальнымі, чыста беларускімі тэмамі, крынічнай мовай, высокімі пачуццямі, абумоўленымі тугой па Радзіме. Яе лірычны герой — сціплы, шчыры чалавек, з ісцінна беларускім цярплівым характарам, безаглядна ўлюбёны ў аддалены гадамі, але дарагі і незабыўны край бацькоў. У творах М. Сяднёва, гранічна адкрытых, напоўненых унутраным эмацыянальным напалам, пераліваюцца блізкія беларускаму сэрцу перазвоны традыцыйнай паэзіі. Шмат у іх аўтабіяграфічнага, асабіста перажытага, што найбольш пераконвае ў праўдзівасці кніг, прасякнутых увагай да звычайнага чалавека. Аўтабіяграфізм, аднак, успрымаецца ў шырокім сэнсе, не толькі як асноўныя вехі жыццёвага шляху, а як глыбока мастацкае, эстэтычнае самавыяўленне духоўнага свету. Тут, сапраўды, не паэт, а біяграфія паэта піша сваёй рукой гісторыю лірычнага героя. Але паэт заўсёды больш цэласны і значны, чым яго біяграфія, таму што ён — гэта цэлы свет, радасць і смутак, шчасце і трагедыя, гармонія і супярэчнасць. І ніхто не скажа пра паэта больш і лепш, чым ён сам у сваіх творах.

**Творчасць М. Сяднёва не ўспрымаецца без разумення яго складанага жыццёвага лёсу, насычанага драматычнымі падзеямі. Сялянскі сын з глыбіннай Магілёўшчыны, студэнт Мінскага Вышэйшага педінстытута, актыўны паэт, вершы якога ў 30-я гады пачалі друкавацца на старонках «ЛіМа», «Полымя рэвалюцыі», «Савецкай Беларусі», «Чырвонай змены», «Беларускай работніцы і сялянцы», у альманаху «Аднагодкі», ён узрастаў, як і многія нашы паэты, сярод прыгажосці беларускай прыроды, свету, што вабіў «адзінствам хараства», дзе ён, натхнёны мілагучнасцю роднага слова, пачаў «спяваць хвалу сонцу, вясне, дажджу і грому», басаногаму, вясковаму маленству. Раннія вершы М. Сяднёва былі надрукаваны і заўважаны літаратурнай грамадскасцю, што акрыліла маладога паэта, надало яму сілы, творчага імпэту, добрых спадзяванняў. («Поўнілася сэрца маё песьняй і ня ведаў дзе я — на зямлі ці ў храме...»). Станаўленне творчай індывідуальнасці М. Сяднёва адбывалася на асваенні акаляючага жыцця, пра якое ён гаварыў мовай пачуццяў. Вершы прасякнуты высокім лірычным настроем, аптымізмам, пошукам тых «слоўзярнятак», якія б маглі перадаць «суладдзе песень». Верш паэта, па яго ўласнаму вызначэнню, «тугі, нацэлены ў порсткі», кранаў душу чытача адухоўленасцю і нацыянальным каларытам. Ён ужо мог прызнацца самому сабе: «Скарб я маю багаты, ён завецца доляй паэта...» Вось за гэты скарб паэт і паплаціўся ў той час, калі ў**

Алесь РАЗАНАЎ



# Паэма чырвоных вяровак

Жаўцела лотаць.
Вецер ёю пах
і хваляваў,
і вабіў у вандроўкі,
і абяцаў, што там...
А на слупах
ваагаліся чырвоныя вяроўкі.

Замкнёны ў год,
зламаўся краявід
і паказаў таемнае.
На зломе
увасабляўся тварамі нябыт
і ўсё наўкол,
кім ёсць яно,
знаёміў.

На часткі — шмат:
распалася шкала.
Чаго хто варт! —
пыталіся тавары.
Наступнасць адступалася.
З-за шкла
глядзелі перакуленыя твары.

Далёкае і блізкае
ўпрытык
і ломячы сустрэчаю значэнні,
сыходзіліся:
позірк не прывык
і вынаходзіў розум
тлумачэнні.

Рос недарод.
Стаяў квадратны год:
стагоддзі абаперліся —
падрубы.
На ўсіх пляцах аб'яўлены ўзыход
вёў патаемна
у глыбіні згубы.

Мяне спынялі:
нельга нацянькі.
Аблытаны чырвонымі сцяжкамі,
я жыў нідзе,
нікому.
Пацукі
адважна верашчалі за мяшкамі.

Сціскалася прастора,
як сіло.
Час абяцаў:
не пашкадуе плёну.
Употайкі —
пакуль не рассвіло —
усе наўкол
закопвалі імёны.

Каб разам быць:
відушчы ці сляпы —
ніхто не можа
мець з жыцця карысці.
А рассвіце —
падымуцца слупы.
Мы пра нябёсы марылі калісьці.

Свае імёны:
аддзялялі — кроў.
Есць я і ты.
Але ты плачаш з жалю,
Парадкавыя твары ў нумароў,
чаго хто варт —
па іх распазнавалі.

Не тоячы ні радасці,
ні слёз,
ты мной жыла.
І лотаць — для адвару.
Ёсць ты і я,
а паміж намі — лёс,
і ў лёсу
пераменлівыя твары.

Акрэсліваўся ўчынкамі.
Цякло
жыццё далей.
Я прыпыняўся нечым.
І краявід накрэсліваў на шкло:
каб ён застаўся —
вечнае нявечыў.

Страх краўся ўслед.
Хаваў, як запавет,
імя сваё ўнутры сябе.
Вяснова
мне не цвісці, як лотаці.
Паэт
агучваў перакуленыя словы.

Пакінуты
разгляду і суду:
пад нумарамі вартасці і вады,—

Генрых Далідовіч



# Дзе ты, божа?

**Мае родныя невялікія Янковічы далі мне нямала матэрыялу для празаічных твораў. Тое-сёе ўжо спажыў, увасобіў у апавяданні, аповесці і раманы. Але ўвесь час непакоіла адно *адчуванне: не ўсё і не зусім так расказваю пра тое, пра што* апавядалі людзі, што ведаю сам...**

**Выспела рашэнне вярнуцца да першага пасляваеннага дзесяцігоддзя і па магчымасці найбольш праўдзіва расказаць пра лёс былых заходнебеларускіх Янковіч і іхніх насельнікаў. У выніку напісаўся раман «Заходнікі». Сярод яго герояў — старшыня сельсавета Кураглядаў, «усходнік», партызан, у прынцыпе не дурны, але спакушаны «вялікай місіяй» і ўладай малады мужчына.**

**Увазе чытачоў падаю адзін з эпізодаў з жыцця былой заходнебеларускай дакалгаснай вёскі.**

**Аўтар.**

НАЗАЎТРА Кураглядаў сабраў сваіх работнікаў і запытаў, колькі яны сабралі бульбы. Пакуль што, як пахопкам падпічыў, яшчэ не было і палавіны таго, што трэба было здаць раёну. Нават тут, у Янкавінах.

— Мала! Вельмі мала! — як і заўсёды, з раніцы быў злы. — Трэба прымаць рашучыя меры, каб працаваць лепш!

— Ёсць такія сем'і, што не маюць чаго даць, — сказала Валянціна.

— Не маюць альбо не хочуць? — строга запытаў і ў яе, каханкі. Каб іншыя бачылі: ён круты і да сваёй маладой любіміцы.

— Не маюць, — як ніхто з іх, падначаленых, смела адказала яна.

— Ты добра ведаеш, што не маюць?

— Добра.

— Трэба не столькі давяраць, колькі правяраць! — секануў у паветры рукою. — Тут народ такі... Калі пачулі пра нарыхтоўку, то могуць і хаваць сваё дабро. Натура ва ўласніка вядомая. Яму напляваць на іншых, на раён, на краіну... Адным словам, аднаасобнікі ёсць аднаасобнікі! Ды яшчэ гэтыя, заходнікі!...

— Праўда, Лукіч, каторыя не могуць даць ні каша, ні жменю бульбы, — падаў потны і мляўкі пасля ўчарашняй выпіўкі Клопікаў.

— «Не могуць!» — перакрывіў Кураглядаў. — Гэта вы, работнічкі, не можаце як след працаваць з людзьмі! Не толькі зламыснікаў, што зрываюць пастаўку, але і вас трэба аддаваць пад суд! Ці вы думаеце, што гэта ўсё жартачкі? Краіна сама становіцца на ногі пасля цяжкай вайны, краіне патрэбен пасяўны матэрыял, тая ж бульба, а вы разводзіце тут анцімоніі! «Не могуць». Давайце гаварыць праўду: не хочуць аднаасобнікі памагчы. І іменна нам, Савецкай уладзе! СССР! Ці вы гэтага не разумееце?

Усе паапускалі галовы.

— Калі палітычна неадукаваныя альбо няздольныя да адказнай работы, называйце прозвішчы зламыснікаў. Сам займуся імі.

Паразгортвалі свае сшыткі, назвалі прозвішчы тых, хто не здаў сельсавету нормы бульбы. Ён запісаў усіх у свой старшынёўскі блакнот. Пасля, калі адпусціў сваіх людзей, паслаў іх ва ўсе іхнія вёскі, пазваніў участковаму, Лявонаву: так і гэтак, прыязджай, пужні формай, а, калі трэба, дык і зброяй, каб не ўпіраліся, не байкатавалі такую сур'ёзную акцыю. Той, хітрун, пачаў ухіляцца — бачыш, хапае тых, хто не хоча здаваць бульбу, і тут, дзе ён жыве, дык вы там, у сваіх Янкавінах, націскайце самі. А па-другое, гэта, маўляў, не столькі яго клопат, а іхні, сельсавецкі. Ён прыбудзе тады, калі на іх, скажам, будуць кідацца з нажамі альбо з сякерамі, а то зарэжуць ці засякуць каго. Ды ўчэпісты Кураглядаў не адступіў, змусіў-такі заявіцца і сюды. Добра ведаў ужо: аднаасобнікі — людзі бітыя, міліцыянера збаяцца болей, чым яго, цывільнага. Форма, кабур ззаду, грозны позірк, суровыя словы, а тым больш, што ён можа затрымаць і завезці ў раён, — усё гэта робіць сваё ўражанне. У людскую душу за вайну ўвайшлі боязь і паслухмянасць перад чалавекам у форме і са зброяй — нашмат больш, чым перад законам. Часамі ён, гэты закон, толькі дзеля прыліку, на паперы, ніхто на яго не зважае, толькі прыкрываецца ім, а ў жыцці ўсё ідзе па-іншаму, «дзеля партыі, дзеля вышэйшых мэт і інтарэсаў».

Потым, калі лейтэнант Лявонаў прыдыдыгаў на матацыкле, Кураглядаў падсеў да яго ў каляску і паехаў з ім да «бунтаўшчыкоў». Услед падаўся Мішка на пустых калёсах.

Усё смялей і смялей пыхала вясна: падсох, пабялеў брук, сышла ці спала вада ў канаўках, пакінуўшы на дне вымыты альбо нанесены жоўты пясочак, выпетраліся платы і ствалы дрэў, абкінуліся зялёна-жаўтаватым вэлюмам вербы і падрыхтавалася разгарнуцца і заззяць у адну цёплую ноч пяшчотнай зелянотай лісце на бярозах, зазелянела вялікім дыванам аселіца. Жанчыны падмятаюць двары, вуліцу каля свайго селішча, пасыпаюць жоўтым пяском сцежкі, а каторыя ўжо капаюць рыдлёўкамі зямлю ў гародчыках і садзяць раннія кветкі. У многіх дварах мужчыны ляпаюць сякерамі і малаткамі — хто плазуе, склюдзіць бярвенне, хто сядзіць на зрубе альбо ўжо на страсе новага дома. Усе, канечне, праводзяць іх цікаўнымі позіркамі — аж да Вікці Навіцкай, ля селішча якой яны вось ткнуліся і запыніліся.

Селішча тут як такога яшчэ не было: ні плоту, ні хаты з прыбудовамі, садовых дрэўцаў, тырчэла толькі з зямлі ўдзірванелая зямлянка і побач ляжала груда акоранага, пацямнелага ўжо бярвення. На двары — старая гаспадыня, Вікціна маці, і трое, адно пад адно, чарнявых дзяцей. Гэтых Навіцкіх, як і многіх у вёсцы, Кураглядаў ведаў найперш па сельсавецкіх дакументах і толькі крыху ў твар, знаючы, што гаспадар летась падарваўся на лузе на міне.

Падышоўшы, Кураглядаў павітаўся і адразу ашаламіў старую:

— Што гэта вы, грамадзянка, байкатуеце важнае дзяржаўнае заданне?

Тая — у старых, пашытых валёнках, доўгай, да зямлі спадніцы, паўсачку ды ў цёплай хустцы, хоць на двары ярка ды цёпла ззяе сонца, сагнутая, з кіёчкам — адхіліла хустку ад вуха.

— Я не чую, чалавек, што вы гаворыце.

— Чаму не здаяце два пуды бульбы? — пракрычаў ёй у вуха.

— А, — пачула тая. — Вы — пра картофлю... Няма яе, чалавек, дык і не здаем.

Бачачы, што з глухаватаю старой мала толку гаварыць, Кураглядаў павярнуўся да большага, гадоў сямі, босага хлопчыка ў штоніках з салдацкага зялёнага галіфэ:

— Дзе маці?

— Там, — той матлянуў галавой на зямлянку.

«Схавалася», — зразумеў ён.

— Пакліч яе сюды, — загадаў малому.

Той паслухаў яго, вясковага начальніка, адчыніў дзверы ў зямлянку.

— Мамуся! Вас клічуць.

Нават тут, на двары, было чуваць, як адтуль, з зямлянкі, на хлопчыка засыкалі. Ён збянтэжана азірнуўся, шчыра гаворачы ўсё вачыма: маці не хоча выходзіць.

Лявонаў дастаў пачак цыгарэт, пачаў марудна выбіраць, а затым мяць цыгарэціну, хукаць на яе — увайшоў, бач, у свае, «вельмі важныя», клопаты; Кураглядаў, адчуваючы, што трэба паказваць уладу, рашуча накіраваўся да зямлянкі, да дзверцаў з дошчак, а з сярэдзіны абабітых старою дзяружкай.

— Грамадзянка Навіцкая! — гукнуў. — Выходзь! Жыва! Што за гульня ў хованкі?!

Зазірнуў углыб. Спачатку, пакуль засланяў сабой святло, нічога не ўбачыў у паўзмроку, а потым, стаўшы бокам, угледзеў: паблізу ўваходу — невялікая печачка з чыгуннай плітой, за ёй — стол на кругляках і з абчасаных плашак, воддаль, абапал сцен — палкі-лежакі. У кутку, адрачона спусціўшы галаву, сядзела гаспадыня. Не зважала, што ён, старшыня сельсавета, стаіць блізка, кліча выйсці на двор.

— Я чакаю вас!

— Чаго? — павярнула галаву, зірнула на яго.

— Выходзьце — пачуеце.

Яна паднялася, пратупала па земляным доле, паднялася па «лесвіцы» — некалі аплазаваных, а цяпер ужо замусоленых падэшвамі бярвенцах — і выйшла на святло. Сярэдняга росту, тонкая і худая. Як і маці ў зімовых валёнках, доўгай спадніцы і хустцы-канаплянцы. Здаецца, ёй трыццаць гадоў, а выглядае на ўсе пяцьдзесят. Закашлялася. Ці прастуджаная, ці, можа, нават хворая на лёгкія.

— Вось што, грамадзянка Навіцкая... — Калі яна перастала кашляць, прамовіў ён, з усяе сілы выціскаючы з сябе спачуванне ці, як кажа Уладароў, «мяккацеласць» ды набіраючы стальныя ноткі. — Ты чаму супраць Савецкай улады?

Зірнула на яго глыбокімі, запалымі вачыма. А ў іх — ні крыўды, ні злосці, нейкая адрачоная пустэча.

— Чаму, як і паложана, не даеш сама меней два пуды бульбы?

— Калі вам «паложана», дык бярыце...

— Як гэта — «бярыце»? — наўмысна пачаў задзірацца, распальваць сябе. — Ты сама, свядома, павінна адгукнуцца на патрэбы краіны і падзяліцца лішнімі запасамі.

— Якімі?

— Кажу ж табе рускай мовай: здай два пуды бульбы.

— А калі ў мяне ні адной бульбіны ўжо?

— А як жа ты тады жывеш?

— Вось так і жыву. На вадзе і траве.

— Разжалобліваеш! — ухмыльнуўся. — Ухіляешся!

— Бярыце! — нечакана ў яе шараватых вачах бліснулі злыя агеньчыкі, і яна ступіла да яго, закрычала. Адкуль толькі ў яе, дахадзягі, з'явілася столькі жывасці. — Усё забірайце! Зямлянку гэтую гнілую! Мамусю! Дзяцей! Вам жа ўсё паложана!

— Ты гэта... — Ад нечаканасці аж запнуўся і адступіў. — Не дуры! Не адной табе нялёгка. Усёй краіне цяжка!

— Я ўсёй краіны не накармлю.

— Ясна, ты толькі сама пра сябе думаеш.

— А хто пра мяне, пра маіх дзяцей і маці паклапоціцца? Вы? Краіна? Вы глядзіце толькі, як што ўварваць. Ды сыкаеце пры гэтым: маўчы! Не пікні!

— Ты што — не разумееш, як абнясіліла краіну вайна?

— На добры толк вас, балбатуноў, за гэтую вайну трэба на кастры паліць. *Шушукаліся-шушукаліся* з Гітлерам, а потым удваіх нас рабавалі, білі, палілі, у зямлянкі загналі... І цяпер душу вытрасаеце, апошняе забіраеце...

— Ты!.. — Захліпнуўся ад злосці. — Трымай, дурніца, язык за зубамі! Давай два пуды насенкі і канец спрэчцы! Паказвай, дзе капец.

— Вунь, за зямлянкай.

Рушыў па ўтаптанай сцежачцы за зямлянку. Сапраўды, *паблізу на ворыве па* адзін бок — груда зямлі, па другі — кучка саломы, а пасярод — яміна. У ёй толькі старая салома. Нават ні аднаго гніляка няма.

Вярнуўся. Напаў:

— Куды перахавала насенку?

— У... — Здаецца, хацела са злосці па-простаму, груба сказаць, але не паспела, забіў дых кашаль.

Якраз пад'ехаў сюды на калёсах Міш-

Вацлава ВЯРБОЎСКАЯ

# ЖЫВЕ Ў АМЕРЫЦЫ ДЗЯЎЧЫНКА З МОТАЛЯ...

## Мазаіка характару. Дыялогі з доктарам Марыяй Дзямковіч.

Ёй было 13 гадоў, калі яе змусілі пакінуць свой родны кут, свой родны край, сваю Бацькаўшчыну...

«Памятаю, як партызаны напалі ноччу. Шмат крычалі, патрабавалі ежу, мёд. Я вельмі спужалася і схавалася пад ложак, але яны нічога дрэннага не зрабілі. Тады я вылезла з-пад свайго сховішча і заснула. Прачнулася ад крыку. Крычала бабуля. Я ўскочыла і праз прыадчыненыя дзверы ўбачыла, як на лаўку паклалі майго дзядзю Паўла (брата мамы) і пачалі біць. Доўга білі. Ён стагнаў спачатку, а потым прасіўся. Бабуля енчыла: «Паночкі, забярыце ўсё, гэта мой сын, маё дзіця... Не біце, паночкі...» Але яны білі яшчэ больш... Сэрца маё білася моцна-моцна і я знепрытомніла... Не памятаю, што было далей», — раскажа доктар Марыя Дзямковіч праз 40 гадоў.

Яна хацела выкрасліць усё з памяці, забыць, што недзе існуе Беларусь. Моталь... Яе радзіма... Матчына мова. Бацькава поле...

«Быў снег амаль да пояса. Свяціў месяц. Стаяла прыгожая, чыстая, марозная зіма. — працягвае свой успамін Марыя Дзямковіч.—Раптам мы пачулі стрэлы. Бабуля выйшла з дому і, вярнуўшыся, сказала са слязьмі, што партызаны забралі дзядулю Пятра і дзядзю Паўла. Яна сказала яшчэ, што дзядуля прасіў памаліцца, але мы раптам ізноў пачулі стрэлы. Бабуля паляцела да дзядзі Паўла, схапіла ягоных маленькіх дзетак і прынесла да нас (іхнія дзверы былі з вуліцы, а нашыя — з гароду). Хутка пачуўся стук у нашы сенцы. Мама пайшла адчыняць, доўга яе не было, а потым у хату ўвалілася нейкая высокая фігура і галосна гаркнула: «Маліся , бо буду забіваць!» Я не памятаю, чаму мы пачалі голасна плакаць... Гэты чалавек падняў вінтоўку і прыцэліўся, але нечакана адчыніліся дзверы і — на парозе стаяў чалавек, які сказаў: «Пакінь, не забівай...» Ён калісьці прыходзіў з партызанаў да дзядулі, і яны доўга аб чымсь размаўлялі...

Маці ўцякала босая з дзецьмі праз агароды да людзей праз тры дамы ад нашага. У гэтую ж ноч мы перабраліся ў дом дэкана.

Бабуля наступнай раніцай пайшла шукаць свайго мужа і сына. Знайшла яна іх... забітымі. Прывезла на санях дамоў...

Каля мяне стаялі нейкія людзі і сказалі, што тут забілі майго дзеда і дзядзю Паўла... Я знямела... Не памятаю, як апынулася ў другой бабулі (маці маёй мамы), а там — два ейныя сыны Мікалай і Паўла ляжаць на лаўцы, прыбраныя і памытыя. Дзядзька Мікалай ляжаў першы і пад беларускай кашулькай, у якую яго апранулі, быў чамусьці ручнік, я хацела паправіць і ўбачыла адкрытую рану...

Не памятаю, як апынулася дома, а там тое ж самае — на такіх жа лаўках і ў такіх жа беларускіх кашульках ляжалі дзядуля і дзядзя Паўла...»

Далей яе памяць не трымае нічога. Альбо яна не магла больш вытрымаць у гэты чорны дзень, альбо Бог даў ёй няведанне, бо большы крыж яна ўжо падняць не змагла...

Але праз гэту пакуту, праз увесь жах, аднекуль усплывае ў памяці вобраз яе любімага дзядулі Пятра... Ён быў прыгожы, духоўны чалавек і шмат дабра зрабіў людзям. Была ў іх хата. І быў гарод, і была вялікая яблыня з галінамі аж да зямлі... Моталь. Белыя хаты... Чыстыя агароды, у якіх чаго толькі ні расло! І мак, і цыбулька, і моркаўка, і агурочкі, і памідорчыкі, і бульбачка... а колькі ягад! А яблыкі, грушы, слівы!.. І якая радасць была туды залезці і таго-сяго пасмакаваць!

«...Дзяцінства... Ці ёсць што ў свеце прыгажэй і святлей за яго?.. Кажуць, што тыя рысы характару, якія чалавек атрымаў у дзяцінстве, потым ён толькі развівае. Галоўны напрамак душы складваецца ў дзяцінстве... Галоўны рух духоўных сіл пачынаецца там...

Мама працавала ў полі, а тата йшоў на цагляны завод (ён і яшчэ два чалавекі мелі гэты завод).

...Тата меў вельмі цікавы характар, і шмат цікавых падзей адбылося з ім. Сваю жонку, маю маму Ганну, ён прынёс дамоў на руках. Бацькі яго хацелі другую, больш багатую, але ён выбраў каханую! ...Аднойчы на кані ён заехаў у... рэстаран. ...Аднойчы ён надзеў кажушок і ў царкве выступіў і гаварыў пра незалежную Беларусь... Мая бабуля была заклапочана гэтым выступленнем. Баялася, каб не атрымалася чаго-небудзь дрэннага.

Калі пачалася вайна, то ён у афіцэрскай капральскай вопратцы прыйшоў развітацца з усімі намі. (Ён служыў у польскім войску, а паколькі беларус, дык павінен быць у рэзерве, а калі вайна, то і беларус патрэбны). Яму было тады 33 гады...

...Потым у Моталь прыйшлі расейцы...

Яны ішлі па галоўнай вуліцы, ехалі на канях і вазах. Твары іх былі змучаныя і худыя... Дзядуля казаў, што ў Расіі дрэнна. Гэта я добра памятаю.

Некалькі чалавек прыйшло да нас у хату. Маці паставіла на стол сала, хлеб, мёд, шмат тварагу і малака. Елі яны са смакам і гаварылі, што ў нас «малая Амерыка»... Каням давалі сена, аўсу...

У нас тады было радыё і з гэтага часу пачалі гучаць па радыё расейскія песні «Вставай, поднимайся, рабочий народ», «Расцветали яблони и груши» і г. д. Мне падабаліся гэтыя песні і я любіла іх слухаць...

Аднойчы да нас прыйшлі афіцэры і салдаты з вайны і сказалі, што майго бацьку забілі і сказалі, нават, што бачылі, як яго пахавалі...

Але аднаго разу да нас прыйшоў паштальён і спытаў маму, але паколькі мамы дома не было, то пісьмо даў мне... На канверце я ўбачыла надпіс «Барыс Раманавіч» па-польску... Не памятаю, што было ў пісьме, але памятаю, што бацька напісаў з лагера.

Я паляцела з усіх ног да дзядулі і бабулі і крычала: «Бацька жывы! Бацька жывы!»

Гэта была адна з шчаслівых старонак ейнага жыцця. А колькі іх было яшчэ... Мо калі атрымала атэстат пра заканчэнне школы, і дырэктар сказаў, што за ўсю гісторыю школы Марыя Рамановіч мае найлепшыя адзнакі... Мо калі паступіла ўжо ў Польшчы ў медычны універсітэт... Мо калі замуж выйшла за свайго каханага?..

Амаль праз 40 гадоў пра доктара Марыю Рамановіч так скажуць пацыенты: «Доктар Марыя заўсёды гаворыць праўду і шмат дапамагае хворым. Калі б не яна, пенсію мы б ніколі не атрымалі. Яна першая ўбачыла, што я атручана волавам, хімічным прэпаратам, і, не пабаяўшыся, што будзе мець праблемы з фірмай, у якой я працую, пачала змагацца з людзьмі, якія былі ў гэтым вінаватыя. Я, і шмат такіх, як я, страцілі здароўе і не мелі ніякага ратунку.

Яе пужалі, тэлефанавалі ёй, але яна была ўжо шмат пужаная... І перамагла! Прадпрыемства гэта зачынілі, пенсію людзям выдалі! А калі б не яна, колькі людзей страцілі б працаздольнасць!..»

Прыемна чуць пра беларусінку тут, у Амерыцы, што яна больш, чым доктар: яна сябра, дарадчык. «Без яе я ніколі не атрымаў бы пенсію, — кажа мне пацыент містэр Марц. — Я працаваў на школьным аўтобусе, але дастаў строк і цукровы дыябет. Таму ў мяне забралі лайсенс на працу і ніякага ратунку не было. Толькі доктар Марыя дамаглася атрымаць мне дапамогу ад штату! Яна таленавіты доктар! І яшчэ больш таленавіты чалавек!»

Калі я запыталася ў доктара Марыі, ці моліцца яна Богу, яна сказала мне: «Мая работа —мая малітва!..»

Яна заўсёды дбае аб пацыентах, а не аб сабе, яна аддае сябе людзям, думае пра іх, любіць іх, яна міласэрная... Аб гэтым гаварылі мне ў адзін голас людзі, якіх калісьці лячыла, альбо лечыць доктар Марыя.

Міласэрная... Адкуль гэта ў маленькай прыгожай беларускай жанчыны, якая вынесла на сваіх худзенькіх плячах столькі болю, столькі гора, столькі жалю? Што трымала яе? Адкуль браліся сілы?..

Яна хацела выкрасліць са свайго сэрца Беларусь і ўсё, што мела да яе дачыненне... Не хацела думаць... Старалася не ўспамінаць...

— Мы лічылі доктара Марыю полькай, бо адукацыю яна атрымала ў Польшчы, — скажа мне ейны калега доктар Ноял, — але яна прынесла карту і паказала, дзе знаходзіцца Беларусь... Ад яе першай я дазнаўся пра гэту краіну.

І не толькі ён у Пітсбургскім шпіталі, што ў Пенсільваніі, дзе працуе доктар Марыя, даведаўся пра Беларусь. Пра Беларусь даведаліся ўсе яе калегі і пацыенты, што для мяне было прыемнай нечаканасцю, бо амерыканцы ў большасці сваёй лічаць, што ёсць толькі «Расія», а што існуе недзе Беларусь, дык пра гэта мала хто чуў.

«...Апынуўшыся ў Польшчы, мы павінны былі хлусіць, што мы палякі, а не беларусы. Кожны дзень трэсліся, што прыйдуць і заб'юць... Галадалі. Елі мерзлую бульбу, цяжка працавалі на фальварку. Я выбірала буракі, жала жыта, збірала бульбу. А калі мне было 15 гадоў я пайшла працаваць на цукровы завод, мыла падлогі, чысціла машыны, сястра Волечка даіла кароў. Жылі мы з мамай і дзецьмі ў адным неабагравальным пакойчыку.

Я зразумела, што так жыць больш нельга. І паставіла сабе ўмову: альбо выбірацца з гэтага становішча і нешта рабіць, альбо загінуць змарнеўшы.

Мэтанакіравана пачала чытаць (пры свечках) польскія кнігі. Потым, назбіраўшы цукру, я змагла наняць настаўніка. Заплаціла яму за заняткі 20-цю кілаграмамі цукру.

Хадзіла ў школу за 3 кіламетры ад фальварку праз лес. Экзамены ў школе здала лепш за ўсіх. Паступіла спачатку ў гандлёвую школу, а потым вырашыла паступіць у медычны інстытут. І паступіла! Памятаю, у паперах павінна была пісаць, што полька, бо калі б напісала, што беларуска, то польскія камуністы адправілі б мяне ў Сібір, дзе ўжо пакутавала мая цётка з дзецьмі.

Вучылася я больш, чым мае сябры. Паўтарала ўвечары і назаўтра раніцай ўсё тое, што праходзілі ўдзень. Любіла хімію. Крэсліла хімічныя формулы, уяўляла, як праходзяць хімічныя рэакцыі...

Скончыла педыятрыю ў ліку лепшых студэнтаў. Гэта быў адзін з самых шчаслівых дзён у маім жыцці! Думала, што ўсё змагу; знала, што лячыць буду лепш за ўсіх!

...Першыя гады працы ў Польшчы былі цяжкімі. Працавала шмат. Лячыла. Вучыла студэнтаў. Сама з імі вучылася, чытала новыя і старыя часопісы і газеты. Паспявала ў оперу, на канцэрты. Палюбіла Хэмінгуэя, Стэйнбека, Сянкевіча, Міцкевіча...

Пад час працы Марыя страціла мужа, цяжка хварэла яе дачушка, а на рабоце ніхто гэтага нават не заўважыў, бо яна ніколі не пераносіла сюды асабістыя праблемы.

Адкуль браліся сілы? Адкуль бралася цярпенне? Што дапамагала ёй несці жыццёвы крыж?..

— Яна думае аб пацыентах, а не пра сябе, — скажа пра яе медыцынская сястра Салей Веуф. — З ёй вельмі лёгка працаваць, яна аддана хворым і заўсёды добра ведае, што рабіць. Высокай кваліфікацыі доктар. Я працавала з многімі доктарамі, а з беларускім доктарам найбольш цікава і прыемна працаваць.

«...Малады доктар прыкрыў твар дзіцяці і сказаў бацькам, што дзіця памерла. Я ўвайшла і ўбачыла, што сэрца яшчэ б'ецца, што скура яшчэ ружовая і што яшчэ можна паспрабаваць вярнуць яго да жыцця... Пачала рабіць штучнае дыханне і пасля 2 гадзін напружанай працы дзіця ажыло! Само стала дыхаць! Але праз 4

(Заканчэнне на стар. 15).

РЭПЛІКА ЧЫТАЧА

# ...І ШТУРМАМ БРАЎ БЕРЛІН!

Імя і ратныя подзвігі Героя Савецкага Саюза Асмана Касаева шырока вядомы на Беларусі. Сын карачаеўскага народа, ён у гады мінулай вайны паспяхова кіраваў партызанскім атрадам, які дзейнічаў на Магілёўшчыне і быў пазней пераўтвораны ў 121-ы партызанскі полк. Пра баявыя справы Касаева і яго атрада-палка напісаны нарысы, расказваецца ў энцыклапедычных даведніках. Вядома, не ўсё сказана. І спробу У. Янгазава сказаць сваё слова пра партызанскага важака трэба было б толькі вітаць, калі б гэтае «слова» было праўдзівае, выверанае. На жаль, янгазаўскае тварэнне «Няўлоўныя» (не павярочваецца язык назваць яго нарысам) аказалася нагрувашчаннем бессэнсоўных небыліц.

Янгазаў пачынае «салідна»: «Впервые за время войны так настойчиво звонили колокола Славгорода». Але, па-першае, у час вайны быў Прапойск, які толькі пасля вызвалення быў перайменаваны ў Слаўгарад. Па-другое, і гэта, відаць, галоўнае, — дзейнасць касаеўскага атрада-палка не ахоплівала Прапойск (ён дзейнічаў у Бялыніцкім, Магілёўскім і Быхаўскім раёнах). Але аўтар «Няўлоўных» не абмяжоўваецца Слаўгарадам. Янгазаў распаўсюджвае дзейнасць касаеўскага палка не толькі на Магілёўшчыну,але і на рэспубліку ў цэлым. Ён ліха піша, што касаеўцы ўдала ўзрывалі масты «на Бярэзіне, Сажы, Заходняй Дзвіне, Нёмане... Прыпяці».

Зрэшты, Янгазаву і гэтага падалося мала. На поўным сур'ёзе ён сцвярджае, што касаеўскі «121-й партизанский полк освобождал Польшу, Чехословакию, брал штурмом Берлин». Але ж кожнаму беларускаму школьніку добра вядома, што партызанскія атрады і брыгады пасля злучэння з часцямі Савецкай Арміі адразу ж расфарміроўваліся.

Уражвае не толькі архішырокая тэрыторыя дзейнасці касаеўцаў, але і маштаб гэтай дзейнасці. Акрамя ўжо прыгаданага штурму Берліну, 121-ы партызанскі полк, піша Янгазаў, узарваў 66 мастоў амаль на ўсіх рэках Беларусі, збіў 6 самалётаў і «вместе с подошедшими частями Красной Армии разгромил группу немецких войск «Центр».

З неймавернай лёгкасцю аўтар пераконвае, што, ідучы на аперацыю, у начной цемры, па лясной бездаражы касаеўцы «двадцатипятикилометровый бросок сделали буквально за сорок минут». А вось як па волі Янгазава Касаеў аддае загад напярэдадні нападу партызан на варожы гарнізон: «Прорываться придется ночью, вдоль реки, крутыми берегами, мелколесьем, а потом — железнодорожной насыпью... Сигнал — две красные ракеты».

Янгазаўскія кур'ёзы на гэтым не канчаюцца. Вось які загад аддае нямецкі камендант: «За поимку главаря могилевских партизан Касаева будет выплачено полмиллиона марок... За предоставление ему ночлега без ведома власти — расстрел». Як кажуць, каментарыі тут не патрэбны.

Янгазаў «перахрысціў» камісара Івана Іванова ў Пятра Барысава, рэчку Бесядзь — у Бяседу.

Трэба таксама сказаць, што на такім жа ўзроўні напісана і «Баллада о каменной девушке». Абодва творы ўвайшлі ў кнігу У. Янгазава «Мятежная юность», выпушчаную Ваенным выдавецтвам тыражом у 30 тысяч асобнікаў.

Апошнім часам досыць шмат гавораць і пішуць—пра прагрэсіруючую дэвальвацыю святога пачуцця любові да Радзімы і павагі да яе абаронцаў. Скажам прама: опусы Янгазава не садзейнічаюць умацаванню гэтага пачуцця.

Ілья БАРЫСАЎ.

# РЭЛІГІЯ І МОВА

**Леанід ЛЫЧ,**
доктар гістарычных навук

(Працяг. Пачатак у №№ 29, 31).

## 3. МОВА УНІЯЦКАЙ ЦАРКВЫ

Пранікненне каталіцкай і уніяцкай веры ў наш край вяло да пэўных перамен у яго этнакультурным развіцці. Як-ніяк даводзілася мець справу са з'явай, якая зусім не вынікала з уласных духоўных традыцый, а заносілася з чужых краін ды яшчэ больш развітых у многіх адносінах. Небяспека асіміляцыі ўзнікла ўжо на першапачатковых этапах распаўсюджвання новых плыняў хрысціянскай рэлігіі і зусім заканамерна выклікала адмоўную рэакцыю ў народзе. І ў гэтым трэба бачыць яго надзейны паратунак, бо любыя формы супраціўлення насаджэнню і каталіцызму, і уніяцтва рабілі станоўчы ўплыў не толькі на павышэнне этнічнай самасвядомасці беларусаў, але і на захаванне іх культурных традыцый. У такіх умовах праваднікам каталіцызму і уніяцтва на Беларусі трэба было богаслужэнне ў храмах арганізаваць так, каб на іх бок надзейна перацягнуць вернікаў. Дамагчыся такога можна было толькі праз напаўненне новай веры мясцовым этнакультурным матэрыялам, што вымагала перш за ўсё ўжывання ў набажэнстве роднай мовы прыхаджан. Калі б праваслаўнае насельніцтва Беларусі спрэс прымала унію толькі добраахвотна, без супраціўлення, дык, напэўна, ні Ватыкан, ні каталіцкія іерархі Рэчы Паспалітай нікольні не патурбаваліся б аб увядзенні роднай мовы беларусаў у літургію і казанні уніяцкай царквы. Як бачым, сам факт супраціўлення уніі ў шэрагу выпадкаў прыносіў карысць, садзейнічаў культурна-моўнаму развіццю беларускага народа. Што датычыць лёсу царкоўнаславянскай мовы, дык рымскі папа і польскія католікі асабліва не стараліся захоўваць гэтую мову ва уніяцкім богаслужэнні з тым, каб павялічыць разрыў паміж уніятамі і вернікамі рускай праваслаўнай царквы.

Паколькі уніяцкая царква стваралася не на голым месцы, а была вынікам пераходу ў гэту канфесію былых праваслаўных, гэты фактар даволі доўга ўплываў на новую рэлігійную плынь на Беларусі. Як і праваслаўная царква, на першым часе і уніяцкая ў богаслужэнні выкарыстоўвала царкоўнаславянскую мову, маладаступную для разумення простаму люду. Уніяцкая царква пачала рабіць канкрэтныя практычныя крокі па ўжыванні мясцовай мовы, чым пашырыла свой уплыў сярод беларусаў. І, відаць, імкненне зусім яшчэ нядаўна праваслаўнага насельніцтва Вялікага княства Літоўскага мець мову богаслужэння больш блізкую да мясцовай, а значыць, і больш зразумелую, не з'яўлялася сакрэтам для тых, хто насаджаў тут уніяцтва. Улічваючы такія законныя пажаданні беларусаў, а таксама, каб не дапусціць ці звузіць размах іх магчымых выступленняў супраць уніяцкай царквы, у апошняй і дазвалялася весці службу не толькі на традыцыйнай царкоўнаславянскай, але і на беларускай мовах. Між іншым вольнае, нікім не абмежаванае выкарыстанне нацыянальных моў у практыцы уніяцкай царквы адзначалася ў дарэвалюцыйнай гістарычнай літаратуры як адна з прычын хуткага распаўсюджання гэтай канфесіі ў розных краінах Еўропы. Не стала выключэннем тут і Вялікае княства Літоўскае.

Права весці набажэнства ва уніяцкай царкве на роднай мове і фактычныя маштабы яе выкарыстання на Беларусі ў гэтых мэтах дзве зусім розныя рэчы. У апошнім выпадку патрэбны належная паліграфічная база і добрападрыхтаваныя святары. Сёе-тое з гэтага мелася. Але дзякуючы той скрупулёзнасці, з якой па загадзе Найсвяцейшага сінода некалі будуць знішчацца ўсе рэлігійныя кнігі ва уніяцкіх цэрквах, цяжка сказаць, у якой ступені яны былі забяспечаны літаратурай, неабходнай для вядзення літургіі. Прынамсі, гісторыкі не валодаюць дакладнымі звесткамі, былі ці не былі ва уніяцкай царквы на беларускай мове ўсе самыя патрэбныя для ўсялякага хрысціянскага набажэнства кнігі. Калі і былі, дык у выніку татальнага разбурэння літаратурнага фонду уніяцкіх храмаў, яны не дайшлі да нас. І ўсё ж адсутнасць такіх кніг не дае падстаў сцвярджаць, што беларуская мова не ўжывалася уніяцкай царквой у час яе галоўнай службы — літургіі. Нам вядома, што ў сярэднявеччы, калі Беларусь славілася на ўсю Еўропу сваімі слыннымі сынамі, сярод уніяцкіх святароў было нямала людзей высокай этнічнай самасвядомасці. Нездарма ж у шэрагу літаратурных крыніц таго часу засведчана, што ва уніяцкіх цэрквах Беларусі набажэнства вялося не на царкоўнаславянскай ці польскай мовах, а на мясцовых дыялектах. Дый мову царквы нельга вызначаць толькі па адной літургіі. Немалаважнае значэнне тут яшчэ мае, на якой мове святары звяртаюцца да вернікаў у час усёй службы ў царкве, пры выкананні розных рэлігійных абрадаў і г.д. У даных выпадках ужо няма сумненняў: пераважна выкарыстоўвалася беларуская мова ва ўсіх яе мясцовых дыялектах. Менавіта ад таго часу, як у многіх месцах не царкоўнаславянская, а беларуская мова стала асноўнай для уніяцкай царквы, аўтарытэт апошняй нязмерна вырас у народзе. Яна вольна канкурыравала не толькі з каталіцкай царквой, дзе выкарыстоўвалася спачатку латынь, а пазней — польская мова, але і з праваслаўнай, богаслужэнне ў якой па-ранейшаму вялося выключна на царкоўнаславянскай мове. Апора уніяцтва на беларускі этнакультурны элемент і перш за ўсё выкарыстанне ў час набажэнства роднай мовы беларусаў рабіла гэту рэлігійную плынь усё больш і больш папулярнай у іх уяўленні. Няма сумнення ў тым, што калі б беларускі народ быў палітычна незалежным, не зведаў сталага ўціску з боку афіцыйных улад Рэчы Паспалітай і Рускай дзяржавы, пануючых у іх каталіцкай і праваслаўнай рэлігій, уніяцтва вельмі хутка пераўтварылася б для яго ў дзяржаўную рэлігію.

Ішлі гады, і уніяцтва ўсё больш выпрацоўвала ў сабе рысы, якія рабілі яго адметным як ад праваслаўнай, так і каталіцкай цэркваў. Яно станавілася ў многіх адносінах самабытнай і самастойнай рэлігійнай плынню. Яшчэ задоўга да таго, як Расійская імперыя далучыла да сябе беларускія землі, уніяцтва тут было пашырана куды больш, чым каталіцызм і праваслаўе. Пад канец XVII стагоддзя апошняй належала толькі адна Беларуская епархія з цэнтрам у Магілёве. У сістэму уніяцкай царквы Рэчы Паспалітай уваходзілі Кіеўская мітраполія з рэзідэнцыяй у Вільні, Віцебска-Полацкае архіепіскапства і дзевяць епіскапстваў, якія ў сваю чаргу падзяляліся на дыяцэзы (тэрытарыяльна-адміністрацыйныя адзінкі). З іх самым вялікім на Беларусі быў Полацкі, які ўступаў толькі Кіеўскаму. На працягу доўгага часу уніяцтва было ў значнай ступені нацыянальнай беларускай царквой. Калі ж не ўсё ўдавалася уніяцтву па захаванні нацыянальных асноў у жыцці беларусаў, дык гэта толькі таму, што яно пастаянна зведвала на сабе ўплыў, больш таго — уціск з боку Польшчы і Масквы.

Называць беларускую уніяцкую царкву нацыянальнай, народнай маюцца важкія падставы яшчэ і таму, што яе асноўнымі вернікамі былі не заможныя станы насельніцтва нашага краю, а просты, пераважна вясковы люд. Гэта была самая танная паводле выдаткаў на ўтрыманне саміх храмаў і іх служыцеляў царква. У гэтым яна асабліва адрознівалася ад каталіцкай царквы, якая ахвотна выкарыстоўвала любую нагоду, каб толькі сваімі багаццямі і раскошай уразіць чалавека. Не будучы так абцяжараны падаткамі на ўтрыманне уніяцкіх храмаў, беларусы не маглі асабліва ўпарціцца іх пераводу ў новую канфесію. Часта дастаткова было перайсці ў яе мясцовым святару і пану, як адразу ж за імі давалі згоду прыняць новае веравызнанне і сяляне. Нарэшце не ўстаяў ад уплыву уніяцтва і галоўны аплот праваслаўя ў нашым краі — Беларуская епархія. У жніўні 1758 года тут захавалася толькі 130 цэркваў. На гэты час ад яе пад унію адышлі 164 царквы і 5 манастыроў. Паводле падлікаў гісторыка А. Грыцкевіча, у канцы XVIII стагоддзя 75 працэнтаў насельніцтва Беларусі з'яўляліся уніятамі. Толькі ў Гродзенскай губерні мелася 276 уніяцкіх цэркваў, у Мінскай (без Магілёўскага і Рэчыцкага паветаў) —121. Праўда, у гарадах каталіцкіх плебаній было больш, чым уніяцкіх, затое ў сельскай мясцовасці ў межах Літоўскага княства адпаведна 283 і 1199, а праваслаўных — 143, збораў (храмаў) кальвініцкіх —16. Вядома, адным толькі гвалтам, прымусам нельга было навязаць уніяцтва такой вялікай частцы народа. Трэба думаць, што ва уніяцтве было багата такога, што не адштурхоўвала, а, наадварот, прыцягвала беларусаў да яго. І сярод такога прыцягальнага, зразумела, на першае месца трэба ставіць беларускую мову.

Сацыяльны склад прыхаджан уніяцкай царквы вымушаў карэнным чынам змяніць яе адносіны да мовы набажэнства. Сельскае насельніцтва, просты гарадскі люд не ведалі ні царкоўнаславянскай, ні латыні. З імі патрэбна было весці службу на добра зразумелай народнай мове, інакш нічога не атрымалася б з увядзеннем новай веры. І уніяцкія святары з усёй сур'ёзнасцю ўзяліся за справу. Цяжкасці былі неверагодныя, бо не ставала служыцеляў кліру з добрай філалагічнай падрыхтоўкай. На першым часе ў пытаннях мовы панаваў сапраўдны хаос: хто якой валодаў, на той і размаўляў з Богам. Але толькі на першым часе, бо большасцю адукаваных святароў разумелася, што лёс уніяцкай царквы ні ад чаго так не залежыць, як ад будаўніцтва яе дзейнасці з улікам мясцовых звычаяў і этнакультурных матэрыялаў, асабліва роднай мовы беларусаў. Таму ў многіх выпадках апошняя з'яўлялася не толькі асноўнай у час казанняў, выканання розных рэлігійных абрадаў, але і пры вядзенні літургіі. У напісаныя на царкоўнаславянскай ці іншых мовах малітоўнікі ўносіліся патрэбныя для выканання набажэнства беларускамоўныя тэксты. Уніяцкія храмы з'яўляліся сапраўдным асяродкам беларускай нацыянальнай духоўнай культуры і былі зусім амаль неўспрымальнымі да польскай асіміляцыі, што дужа насцярожвала верхнія эшалоны каталіцкага духавенства Рэчы Паспалітай. І яно не драмала, шукала самыя надзейныя сродкі, каб перашкодзіць уніяцтву ўжо занадта моцна авалодаць душамі людзей беларускага краю. Заганяючы ў кут праваслаўе, верныя служкі Ватыкана не забываліся і на тое, каб не даць вялікай волі і уніятам, інакш мэта аддаленай перспектывы схіліць усіх іх у каталіцызм застанецца нязДзейсненай.

Настойлівыя намаганні каталіцкай царквы пашырыць свой уплыў і ўмацаваць раней заваяваныя на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага пазіцыі не праходзілі бясследна. З кожным дзесяцігоддзем ёй удавалася ўсё больш і больш прызначаць на пасады служыцеляў уніяцкай царквы асоб адкрытай каталіцкай арыентацыі. Сярод іх пачалі часцей трапляць нават людзі небеларускага паходжання, прычым былі і такія, што не ведалі ні беларускай, ні грэцкай, ні царкоўнаславянскай моў і карысталіся толькі польскай, чым падрывалі беларускамоўную палітру уніяцкай царквы. На пачатку XVIII стагоддзя ўжо меўся значны працэнт іерэяў, якія нават самі не разумелі, што яны чытаюць у час Боскай службы на славянскай мове. Каб неяк выйсці з такога становішча, склалі Славянскі лексікон (выдадзены ў Супрасльскім манастыры), у якім спачатку падаваўся тэкст царкоўных кніг на славянскай, а затым яго пераклад на польскай мове. Хібы ў моўнай практыцы уніяцкай царквы так ахарактарызаваў добры знаўца гісторыі рэлігіі, этнограф Ю. Крачкоўскі (1840—1903 гг.): «Па меры паглыблення ў васемнаццатае стагоддзе, чым большы лік лацінян (тут маюцца на ўвазе святары польскага паходжання.—**Л. Л.**) уваходзіў ва уніяцкую царкву, тым мацней і мацней падала веданне славянскай мовы. У канцы васемнаццатага стагоддзя не адны базыляне, а і многія свяшчэннаслу-

(Працяг на стар. 14).




З серыі «Помнікі дойлідства Беларусі». Мастак У. БАСАЛЫГА

# РЭЛІГІЯ І МОВА

(Пачатак на стар. 13).

жыцелі... толькі па прыходзе, па ўвядзенні ў сьяшчэнны стан навучваліся колькі-небудзь плаўна чытаць. Міжволі даводзілася завучваць на памяць больш ужывальныя службы, а каму адмаўляла ў гэтым памяць, таму, каб не спакушаць прысутных сваім невуцтвам, прыходзілася абмяжоўвацца толькі адчытаннем царкоўнай службы цішком, сам сабе. Шмат хто са шляхты і мяшчан лацінскага веравызнання, паступіўшы ў белае уніяцкае духавенства і не ўмеючы чытаць па-славянску, амаль заўсёды служылі літургію шэптам, па сшытках, напісаных польскімі літарамі».

Такая беларускамоўная неадукаванасць многіх святароў польскага паходжання, якія пры садзеянні каталіцкіх іерархаў Польшчы ўладкоўваліся на службу ва уніяцкія цэрквы, часта была прычынай канфліктных сітуацый, бо прыхаджанам не падабалася, што духоўныя асобы так ганебна ставяцца да іх роднага слова, неразборліва вымаўляюць тэксты свяшчэннага пісання. Павага уніятаў да сваіх народных традыцый з'явілася важнейшым фактарам, што польская мова не ў стане была трывала ўмацавацца ў гэтай канфесіі. Значна пазней, калі ўжо не адзін дзесятак гадоў Беларусь пажыве ў складзе Расійскай імперыі, мітрапаліт Іосіф Сямашка заявіць, што «славянская мова ў грэка-уніяцкай царкве набажэнская». Тут цяжка сказаць, які меўся на ўвазе перыяд, бо калі канец XVI—XVIII стагоддзі, дык у гэты час выкарыстоўвалася і беларуская мова. А вось калі прыведзеныя словы датычаць першых дзесяцігоддзяў дзейнасці уніяцкай царквы пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі, дык яны могуць разглядацца як доказ «вялікіх поспехаў» свецкіх і духоўных уладаў па выцясненні беларускай мовы з набажэнства ва уніяцкіх храмах.

Але, бадай, самымі адпетымі ганьбавальнікамі роднай мовы карэннага насельніцтва нашага краю з'яўляліся базыляне (так называлі манахаў Ордэна каталіцкай царквы з праваслаўным абрадам), якім сям-там удавалася ўплываць на жыццё уніяцкай царквы. У сярэдзіне XVIII стагоддзя амаль усе базыляне лічылі сваёй роднай мовай польскую і не шкадавалі сіл і намаганняў, каб зрабіць яе пануючай ва ўсіх сферах сваёй духоўнай дзейнасці. З зайздроснай упартасцю насаджалі яны і лацінскую мову, асабліва сярод навучэнцаў, якія займаліся вывучэннем свабодных навук. Ад маладых людзей патрабавалі, каб яны між сабою размаўлялі толькі на латыні ў надзеі, што гэта дапаможа лепш засвоіць, а затым стаць актыўнымі праваднікамі яе ў канфесійнай дзейнасці. І ўсё ж прыкметнага ўплыву на нацыянальныя асновы, мову уніяцкай царквы базыляне не зрабілі.

Са сказанага няцяжка зразумець, чаму з усіх вернікаў нашага краю наймацней звязвалі сваю этнічную самасвядомасць з беларускай народнасцю уніяты. Калі пад уплывам асімілятарскай палітыкі свецкіх і царкоўных уладаў Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі многія каталікі і праваслаўныя на Беларусі пачыналі вызначаць сваю этнічную прыналежнасць адпаведна да палякаў і рускіх, дык уніяты былі свабоднымі ад такіх памылак, называлі сябе літвінамі ці беларусамі. Уніяцкая, ці грэка-каталіцкая, царква не можа не заслугоўваць у сённяшніх пакаленняў беларускага народа самых паважлівых да сябе адносін. Калі б не было такой народнай рэлігіі, дык наўрад ці захаваўся б наш народ як самастойны этнас пры той палітыцы, якую праводзілі афіцыйныя ўлады Рэчы Паспалітай і каталіцкая царква сярод карэннага насельніцтва Вялікага княства Літоўскага, пачынаючы з падпісання ў 1569 годзе Люблінскай, а ў 1596 годзе — Брэсцкай царкоўнай уніі. Такой жа заслонай паўстала уніяцкая царква і на шляху русіфікацыі, якая распачалася пасля далучэння Беларусі да Расіі.

(Працяг будзе).

# Аб'ектыўна пра мяжу

**Ніхто не валодае манаполіяй на ісціну ў апошняй інстанцыі, асабліва ў такім заблытаным пытанні, як дзяржаўная мяжа Беларусі і Летувы. З гэтага меркавання зыходзілі і мы, друкуючы на нашых старонках артыкул С. Мацюніна «Мяжа» («ЛіМ» ад 5 красавіка 1991 г.). З гэтага зыходзім і зараз, прапануючы ўвазе чытачоў водгукі на памянёны артыкул.**

Межы могуць быць бясконца разнастайныя: дзяржаўныя, палітычныя, эканамічныя, этнічныя, маральныя, паміж дабром і злом... і г. д. І характар іх розны: то выразны, рэзкі, а то зусім паступовы, размыты. У апошнім выпадку іх высвятліць не так проста і лёгка. Часта яны вызначаюцца неадназначна, але заўсёды патрэбна імкненне даследаваць іх аб'ектыўна.

Войны, рэпрэсіі, перасяленні (прымусовыя, гвалтоўныя і добраахвотныя) і іншыя прычыны міграцыі і згубы людзей прывялі да вялікай змены як агульнай колькасці насельніцтва, так і суадносін паміж рознымі нацыянальнасцямі. Аднычасова мелі месца неаднаразовыя змены мяжы паміж краінамі і рэспублікамі. Асабліва ў гэтых адносінах не пашанцавала Беларусі... Многія пытанні мяжы да гэтага часу выклікаюць спрэчкі, аб чым сведчаць шматлікія артыкулы, якія з'явіліся ў перыядычным друку ў апошні час. Безумоўна, у любым выпадку зазываць да змен мяжы, якая склалася паміж краінамі і рэспублікамі, нягледзячы на прычыны іх, было б вялікай бязглуздзіцай. Гэта толькі б прывяло да новых Карабаху, Паўднёвай Асеціі і г. д. Але высвятліць гістарычную сітуацыю, пры якой атрымалася змена мяжы, даць сапраўдную карціну становішча таго ці іншага часу, вызначыць прычыны і матывы такой змены, ацаніць ісціннасць таго ці іншага перапісу насельніцтва — усё гэта трэба рабіць грунтоўна, аб'ектыўна і непрадузята.

Акрэсліць межы паміж этнасамі — вельмі складанае і адказнае навуковае даследаванне, якім павінны займацца спецыялісты, валодаючыя ведамі, першнаперш у картаграфіі, этнаграфіі і гісторыі. Геаграфічныя карты (старажытныя і сучасныя), якія асвятляюць тыя ці іншыя этнічныя характарыстыкі насельніцтва, — найбольш грунтоўны сінтэз ведаў і канкрэтная крыніца інфармацыі. Яны могуць разглядацца як дакументы свайго часу, гэта значыць той эпохі, калі яны ўтварыліся. Карты дазваляюць прааналізаваць усю дынаміку гістарычнага працэсу фарміравання этнасу, пачынаючы са старажытнейшага часу. Спецыяліст у галіне картаграфіі, які валодае ведамі працэсаў выдання і скарыстання карт, можа найбольш верагодна і дакладна ацаніць межы і плошчу даследуемай тэрыторыі на той ці іншай карце з улікам матэматычных праекцый (як вядома, яны ўносяць розныя скажэнні ў плошчу, лініі, вуглы.) Вядома, ён павінен валодаць неабходным мінімумам ведаў па этнаграфіі, гісторыі, археалогіі, тапаніміцы, антрапалогіі і іншых галінах, якія дазваляюць зрабіць дастаткова аб'ектыўную ацэнку картаграфічнага дакумента адпаведна з яго тэматыкай. Улічваючы выключную адказнасць у гэтым пытанні, якое закранае міжнацыянальныя адносіны, даследчык павінен займацца галоўным чынам яго навуковым бокам. Пытанне змены палітычных граніц яго не павінна датычыць. Гэта ўжо прэрагатыва адміністрацыі дзяржаў, якія зацікаўлены ў дадзеным пытанні. Дзеля прыняцця таго ці іншага рашэння аб межах адміністрацыя павінна мець аб'ектыўныя канкрэтныя матэрыялы. У процілеглым выпадку гэта можа прывесці да міжнацыянальнага канфлікту. Таму даследчыку трэба выказваць гістарычную праўду і толькі праўду. Не выключаецца, што ў даследаванні могуць быць і памылкі. Але калі яны будуць знойдзены, трэба іх сумленна прызнаць. Некаторыя даследчыкі, якія маюць, магчыма, і зусім добрыя намеры, менавіта — папярэдзіць наспяваючы канфлікт (як прычына несправядліва зробленай граніцы), прыходзяць да хлуслівых прыёмаў з мэтай даказаць правамоцтва такой мяжы. Гэта — утапічны шлях. Ён, як правіла, вядзе да негатыўных вынікаў, таму што гістарычная праўда ўсё роўна непазбежна знойдзе свой выхад, а гэта прывядзе да яшчэ большага абвастрэння.

Далей мы спынімся на пытанні аб заходняй і паўночна-заходняй мяжы Беларусі і ў прыватнасці аб так званым Віленскім краі. Гэтае пытанне досыць шырока абмяркоўваецца ў друку — і беларускім, і польскім, і літоўскім. На жаль, у некаторых публікацыях ёсць, на нашу думку, праява тэндэнцыйнасці, якая асабліва прыкметна ў артыкуле Сяргея Мацюніна «Мяжа» («ЛіМ» ад 5.04.1991). Паколькі ён апублікаваны ў такой аўтарытэтнай газеце, як «Літаратура і мастацтва», лічым неабходным разгледзець яго больш падрабязна.

Ва ўсім змесце артыкула — імкненне аўтара знайсці абгрунтаванне, доказы правамоцтва граніц, якія былі прыняты ў 1939 г. як быццам бы на справядлівай аснове размяшчэння беларускага і літоўскага насельніцтва Віленскага краю, зробленай выключна па даных перапісу насельніцтва па адміністратыўных адзінках. З аднаго боку, ён робіць націск на даныя перапісу насельніцтва і тым самым стварае бачнасць аб'ектыўнасці, а з другога — маніпулюе імі так, што ў выніку адводзіць чытача ад ісціннага становішча і накіроўвае яго па лжывым шляху аналізу, а ў канцы падводзіць да жаданых аўтару вынікаў.

Як вядома ў навуцы этнаграфіі, этнічная тэрыторыя вызначаецца толькі па сельскім насельніцтве (без гарадоў). Аўтар жа артыкула ўлічвае ўсё насельніцтва, уключаючы і гарадское, у тым ліку і Вільню, насельніцтва якой тады складала амаль палову ўсяго насельніцтва павета. Па даных найбольш аб'ектыўнага перапісу насельніцтва 1897 г. у Віленскім павеце (без горада) беларусы складалі 87,6 тыс. чал. (42%), літоўцы — 73 тыс. чал. (35%), палякі — 25,2 тыс. чал. (12%), яўрэі — 15,4 тыс. чал. (7,4%). У г. Вільні было яўрэяў 62,3 тыс. (40,3%), палякаў — 47, 7 тыс. (30,9%), рускіх — 30,9 тыс. (20,9%), беларусаў — 6,5 тыс. (4,2%), літоўцаў — 3,1 тыс. (2%). Калі браць Віленскі павет разам з Вільняй, дык лічбы будуць наступныя: беларусы — 25,8%, яўрэі — 21, 2%, літоўцы — 20,9%, палякі — 20,1%. Як бачым, і тут беларусы знаходзяцца на 1-ым месцы. Чамусьці аўтар артыкула прыводзіць толькі колькасць беларусаў і маўчыць аб іншых лічбах (відаць, каб чытач убачыў, што іх не так шмат і падумаў, што астатніх — больш за ўсё літоўцаў). На самай жа справе ў любым выпадку беларусы выходзяць на 1-ае месца і пераходзяць на 4-ае месца ў самой Вільні, дзе на 1-ае перасоўваюцца яўрэі, якія сумарна па павеце і горадзе займалі 2-ое месца. Прывядзём яшчэ лічбы па некаторых другіх паветах былой Віленскай губерні. У Свянцянскім павеце (разам з горадам) беларусаў было 47,5%, літоўцаў — 33,8%, яўрэяў — 7,1%, палякаў — 6%, рускіх — 5,4%; у Дзісненскім павеце (разам з горадам) беларусаў — 81,1%, яўрэяў — 10,1%, рускіх — 5,9%, палякаў — 2,4%, літоўцаў — 0,34%; у Троцкім павеце (разам з горадам) літоўцаў — 58,1%, беларусаў — 15,7%, палякаў — 11,3%, яўрэяў — 9,5%, рускіх — 4,6%.

Трэба дадаць, што, як меркаваў яшчэ акадэмік Карскі, беларусаў па перапісе 1897 г. павінна быць больш, таму што «... во многих местах белоруссы-православные, смешивая народность с религией, назвавшиеся при опросе просто «русскими», счетчиками присоединены к великоруссам, а кое-где и к малоруссам, если счетчик плохо отличал белоруссов от малоруссов; в других местах белоруссы-католики, которые при опросе по указанной выше причине называли себя «поляками», присоединены к полякам».

На жаль, гэтыя выпадкі пры наступных перапісах яшчэ больш пашырыліся і дзейнічаюць да нашага часу.

## РАДКІ З ПІСЬМАЎ

●

У рубрыцы «На скрыжаванні думак» артыкул «Мяжа» Сяргея Мацюніна закранае праблемы, якія дужа хвалююць беларусаў, што жывуць у межах сучаснай Летувы. Мусім пагадзіцца з думкай аўтара, што «нельга пытанне межаў і тэрыторый народаў вырашаць нейкім камандным метадам». Аднак з некаторымі папярэднімі сцвярджэннямі аўтара нельга пагадзіцца без засцярог.

Выказанае пажаданне, што пытаннямі тэрыторый «павінна займацца навука — этнічная геаграфія, можна толькі ўхваліць.

Аднак, акрамя геаграфіі, існуе яшчэ навука гісторыя, якая даводзіць, што, на жаль, не заўсёды тэрыторыя Беларусі не фарміравалася па прынцыпу этнічнай геаграфіі. Не ўлічваўся ён ні пад час гвалтоўнага далучэння беларускіх земляў да Расійскай імперыі ў канцы XVIII ст., ані пры падпісанні Рыжскага дагавору ў 1921 г., ні пад час непрывабных маніпуляцый пры стварэнні Беларускай ССР і на працягу далейшага фарміравання яе тэрыторыі. Такім чынам, навуковая тэорыя і рэальная практыка па сутнасці ніколі не супадалі.

Насцярожваюць і разважанні аўтара пра тое, «што трэба лічыць нацыянальнай прыналежнасцю?» Калі акрэсліваць нацыянальнасць чалавека на падставе яго самавызначэння, а самавызначэнне «павінна вызначацца не «па крыві», г. зн. не па паходжанні», дык ці не ўваходзіць гэта ў супярэчнасць з прынцыпамі этнічнай геаграфіі і навошта тады яна патрэбна?

Чытаючы, як аўтар смела і ўпэўнена карыстаецца статыстычнымі дадзенымі, аргументуючы імі свае погляды, міжволі згадваецца анекдот пра статыстыку, як «найвышэйшую ступень ілжы». Але тут справа важнейшая за анекдот, бо аўтар, падаючы дадзеныя аб колькасці беларусаў, зусім не ўлічваў тых варункаў, пры якіх у розны час праводзіліся перапісы насельніцтва, не ўлічваў тых крытэрыяў, якімі карысталіся перапісчыкі пры дужа нізкім узроўні нацыянальнай самасвядомасці насельніцтва гэтага краю ды яшчэ і пры націску з боку ўладаў. Нават пад час апошняга перапісу існавала катэгорыя людзей, якія самавызначалі сябе як «тутэйшыя», а сваю родную мову акрэслівалі, як «простую». Апрача таго, яшчэ сёння многія жыхары не разумеюць розніцы між нацыянальнасцю і веравызнаннем, а таму дзякуючы прапагандзе духавенства бальшыня беларусаў-католікаў «самавызначалася» як палякі, а беларусаў-праваслаўных як рускія. Вядома, існуе яшчэ і катэгорыя беларусаў-«бязбожнікаў», але ж яны пераважна вызначаюць сябе як «русскоязычное население».

**Лявон КРЫВІЦКІ.**

г. Вільня.

●

**Лічбавыя дадзеныя, на якія абапіраецца С. Мацюнін у сваёй аргументацыі выклікаюць сама меней здзіўленне.**

**Напрыклад, ці можна верыць ацэнцы нацыянальнага складу Віленшчыны за 1940 г.? Дастаткова прадставіць сітуацыю: савецкае кіраўніцтва збіраецца перадаць пэўную тэрыторыю Летуве і шукае дадатковых аргументаў для сваёй акцыі. А каб дадзеныя аб нацыянальным складзе супярэчылі планам Масквы, што было б з ацэншчыкамі? Рытарычнае пытанне, калі мы ведаем лёс тых, хто праводзіў перапіс 1937 года.**

**Яшчэ раз падкрэсліваю, што я супраць нейкіх тэрытарыяльных прэтэнзій. Аднак улічваць у сваіх адносінах з Летувіскай рэспублікай віленскі фактар і нават абараняць, у пэўнай ступені, інтарэсы насельніцтва краю нашы дзяржаўныя органы маюць поўнае права.**

**А. КАНДРАЦЕНЯ,**
**выкладчык ПТВ.**

г. Ліда.

●

**Калі ісці ўслед за С. Мацюніным, то можна прыйсці да адмаўлення беларускай нацыі наогул. І кім лічыць тых беларусаў, якія яшчэ ў XIX ці нават пачатку XX ст. называлі сябе ліцвінамі або палешукамі, русінамі ці проста тутэйшымі?.. Карэнныя жыхары Гродзенскай губерні, што размаўлялі на чысцейшай беларускай гаворцы, у адказ на пытанне аб сваёй нацыянальнасці называлі сябе ліцвінамі або палякамі («Католік — значыць паляк»). Менавіта пагэтаму па дадзеных прыходскіх спісках у сярэдзіне XIX ст. у Гродзенскай губерні налічвалася за 200 тыс. літоўцаў (за кошт «ліцвінаў»), 193 тыс. палякаў (у пераважнай большасці беларусаў-католікаў), 132 тыс. рускіх (за кошт мясцо-**

Лідзія АРАБЕЙ

# Дзе б ні працаваць, абы не працаваць...

ПА ВУЛІЦАХ нашых, сярод белага дня, у рабочую пару плыве шырокі натоўп людзей і большасць з іх — маладыя дужыя жанчыны і мужчыны, якім цяпер самы час быць на працы. А яны стаяць у доўгіх чэргах, бегаюць з магазіна ў магазін, шукаючы — дзе што «выкінулі».

Гаворка зараз не пра тое, што вось, маўляў, магазіны пустыя і бедныя людзі бегаюць на раздабыткі. А крыху пра тое — чаму яны бегаюць і як гэта звязана з пустымі паліцамі.

Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў не так даўно сказаў: як будзеце працаваць, так і жыць будзеце. Цытую яго не таму, што сёння ён наш прэзідэнт і кожнае слова ягонае для нас неаспрэчнае, як некалі сталінскае, а таму, што гэта яго выказванне вельмі добра стасуецца з маёю тэмаю.

Правільна, для таго, каб нешта стаяла на стале, трэба добра папрацаваць. І гэта выдатна ведалі нашы продкі. Не разгінаючыся, рабілі яны на зямлі, вельмі любілі зямлю, называлі яе і маткаю, і карміцелькаю. Ну, а хто не меў зямлі, хто здабываў свой хлеб рамяством, таксама шчыраваў на сваім палетку, шанаваў свой рамесніцкі гонар, бо існавала канкурэнцыя, і калі ты злепіш крывы збан, то яго ў цябе не купяць, а купяць у Апанаса ці Мітрафана, якія робяць лепей, чым ты.

Умовы нашага жыцця даўно змяніліся, у нас вельмі доўгі час земляробамі ды рамеснікамі кіраваў дзяржаўны апарат, ды кіраваў так, што адбіў ахвоту ад свайго занятку і былыя шчырыя працаўнікі ўжо не хацелі, каб іхнія дзеці жылі так, як яны жывуць, каб рабілі не на сябе, а невядома на каго. І пачалося масавае бегства ў горад, на лёгкі хлеб.

Закон існавання дасюль не змяніўся. І сёння, каб нешта на стале стаяла, трэба добра папрацаваць. А дзяржава на тое і існуе, каб ствараць чалавеку ўмовы для працы, каб яму нявыгадна было сярод белага дня бегаць па магазінах. Каб чалавек і дзяржава не былі антаганістамі, каб тое, што выгадна чалавеку, было выгадна і дзяржаве. Каб усе мы сапраўды маглі жыць так, як працуем.

ХАЧУ ПРЫВЕСЦІ некалькі прыкладаў — не з нейкага «застойнага» там часу, які мы ўсе дружна асудзілі, а з нашага сённяшняга дня.

Чарга за вэнджанаю кілбасою, па трыццаць два рублі з капейкамі за кілаграм. Нягледзячы на такую цану, чарга змяёю выгінаецца. Перада мною жанчынка — маладая, сімпатычная, апранутая па-сучаснаму. Чарга стаіць, нудзіцца, людзі скардзяцца, што яна проста не зрушваецца з месца.

Да жанчынкі, што стаіць перада мною, падбягаюць яшчэ дзве, становяцца перад ёю.

— Вы ж тут не стаялі! — загудзела чарга. — Толькі што з вуліцы прыбеглі!

— Стаялі, стаялі, — павярнула жанчынка сімпатычны свой тварык да раз'юшаных кабет. — Яны перада мною стаялі.

— Ведаем, як яны стаялі, знаёмыя вашы, дык і паставілі!

— Ну а як жа не паставіць, мы ж з адной работы, з аднаго аддзела, я ім заняла...

Жанчыны ў чарзе яшчэ пагудзелі, пабурчэлі, сціхлі. Зноў стаяць, нудзяцца.

Раптам да тых, ужо трох, падбягаюць яшчэ дзве, і тыя становяцца наперадзе.

— Колькі можна, тых дваіх паставіла і яшчэ дваіх, дзіва што чарга не рушыцца, мы гадзіну ўжо стаім! — зноў загудзела чарга.

Жанчынка, што стаяла з самага пачатку, зашыпела на тых, што прыйшлі нядаўна:

— Чаго так позна, тут бабы сварацца...

— Ды мы чай пілі, — *апраўдваюцца* каляжанкі.

— Во работку займелі! — ускідваецца адна кабета з чаргі. — Спачатку чай пілі, цяпер будуць гадзіну ў чарзе стаяць, а зарплата ідзе!

— Бо ў нас гэтак, — падключаецца другая. — Дзе трэба, каб пяць чалавек на службе было, там дзесяць наймаюць!

— А нас акурат пяцёра! — весела адзываецца тая, што прыйшла апошняя.

— Значыцца, хапіла б і адной на такой рабоце.

— Ага, а з кім чай піць?

Адказ, па-мойму, класічны і дальбог не выдуманы, магу пабажыцца, што ўвесь дыялог з жывой чаргі.

Прыклад другі, таксама вельмі свежы.

Мы з мужам селі ў прыгарадны аўтобус. Месцы нам трапіліся ў самым канцы, што ўпоперак салона. Каля нас прымасцілася маладая кабетка ў джынсавым гарнітурчыку, з твару прывабная. Яшчэ не рушыў наш аўтобус, як яна з вялікай сумкі, што была пры ёй, выцягнула газету з надрукаванымі ў ёй крыжаванкамі, павярнулася да нас з усмешкаю:

— Во, не буду сумаваць у дарозе.

Мой муж, таксама аматар крыжаванак, прапанаваў нясмела:

— То, можа, вам памагчы?

— Ага, давайце, разам будзе весялей, — пагадзілася наша спадарожніца.



Фота А. КЛЕШЧУКА

І вось, пад гул аўтобуснага матора, пайшла работа. Хутка зрабілася ясна, што наша спадарожніца вельмі спрактыкаваная ў крыжаванках, яна разгадвала іх, як рэпу грызла.

— Відаць, што вы ўмееце разгадваць крыжаванкі, — адпусціла я жанчыне камплімент.

— Ага, мы на рабоце ўвесь час крыжаванкі разгадваем. Каляжанкі ўбачылі ў мяне газету, хацелі адабраць, дык я ім не аддала, сказала, што мне ў дарозе сумна будзе, у аўтобусе буду разгадваць. Мы на рабоце так налаўчыліся, збіраемся падаваць заяўку ў «Поле цудаў». Бачылі, як там наша мінчанка «Масквіч» выйграла?

— Бачылі, — адказвае мой муж.

— А начальства на вас не сварыцца за тое, што вы на рабоце крыжаванкі разгадваеце? — пытаюся я.

— Што вы, начальніца разам з намі разгадвае, толькі ў яе слаба выходзіць...

Ці патрэбен каментарый і да гэтага дыялога?

Дачка маёй знаёмай скончыла філфак універсітэта. Яе накіравалі ў школу выкладаць рускую мову і літаратуру. Цераз паўгода таго выкладання дзяўчына ледзь не палезла на сценку.

— Столькі работы! Сшыткі правяраць! А ўсе вучні балбесы, ненавіджу іх усіх, ненавіджу школу!

— Але ж трэба працаваць, ты скончыла універсітэт, трэба набываць спецыяльнасць, — *угаворвала яе маці.*

— Начорта мне тая спецыяльнасць! Вунь Алка (гэта сяброўка, разам ва універсітэце вучыліся) у нейкую кантору ўладзілася, паперкі *перакладвае, спачатку справа налева,* потым злева направа і зарплата не меншая, чым у мяне!

— Дык і ты хочаш паперкі перакладваць?

— *А што!!!*

Школу дачка маёй знаёмай пакінула, цяпер недзе паперкі перакладвае, спачатку злева направа, потым справа налева.

ПРА ШТО гавораць усе гэтыя дыялогі? Пра нашу трагедыю. Пра тое, што народ настойліва адвучваюць ад работы. Што моладзь, замест таго, каб шукаць сваё месца ў жыцці, набываць спецыяльнасць, шукае месца, дзе можна не рабіць, а атрымліваць грошы. Нездарма ж у нас з'явілася прымаўка: дзе б ні працаваць, абы не працаваць... Гэта вялікая амаральнасць, можа, таксама адна з прычын, што прывяла да тупіка нашу эканоміку, спустошыла нашы прылаўкі, прымусіла ісці жабракамі на Захад, прасіць крэдытаў, дапамогі. Адкуль жа будзе ўсё ў краіне, калі народ, замест таго, каб працаваць, бегае па магазінах у пошуках таго, што зроблена іншымі?

Успамінаю Японію, куды ездзіла турысткаю. Каго сустрэнеш там удзень на гарадскіх вуліцах? Вучняў, што выйшлі са сваімі настаўнікамі на экскурсіі ў музеі, турыстаў з самых розных краін, заклапочаных мужчын з партфелямі. Увесь астатні народ — на рабоце. Затое вечарамі тут на вуліцы выліваецца густы паток і маладых і не *маладых людзей.* Свецяцца, *міргаюць, заклікаюць* шыльды рэстаранаў, кавярняў. Цэлыя кварталы ў гарадах — месца адпачынку пасля рабочага дня.

У нас наадварот. Шумяць, кіпяць вуліцы ўдзень, пакуль адчыненыя магазіны, і заціхаюць вечарамі. Стомленыя не работаю, а беганнем — дзе што «дастаць», людзі заціхаюць у сваіх кватэрах, каб назаўтра зноў, з новымі сіламі, кінуцца на раздабыткі.

Але народ у тым не вінаваты. Вінавата сістэма, тыя структуры, *якіх аніяк не перарабіць.* За шэсць гадоў перабудовы ніяк не паставіць іх з галавы на ногі, не прывесці ў адпаведнасць з логікаю, зрабіць так, каб людзям хацелася працаваць, каб бачылі вынікі сваёй працы, каб не хацелася ісці ім у кантору, дзе трэба толькі перакладваць паперкі альбо і наогул нічога не рабіць.

Кажуць, *рынак да гэтага прывядзе.* Але дзе ён, той рынак? І няўжо нельга цяпер, яшчэ да таго рынку,ператрэсці штатныя расклады ў канторах? Бо кожны начальнік, трэба яму ці не трэба, змагаецца за свае штаты, бо чым большыя штаты, тым большы ён начальнік. І хоць тыя штаты час ад часу бытта і скарачаюць, але любіцелі перакладваць паперкі ўсё роўна пералятаюць, як матылькі, з адной канторы ў другую, а ў выніку ўсё застаецца на ранейшым узроўні.

І пакуль кожны чалавек не будзе хоць што-небудзь ствараць, быць патрэбным на сваім месцы, у эканоміцы нашай нічога не зрушыцца.

## БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА




# ЖЫВЕ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ БЕЛАРУСЬ!

Як ніводзін ранейшы, чацвёрты нумар «Полацака» багаты на ілюстрацыі. На першай старонцы вокладкі выява неўміручай Ефрасінні Полацкай. Гэта срэбная планшэтка (скульптар П. Вінчы), выпушчаная М. Белямуком з нагоды 800-годдзя з дня смерці выдатнай асветніцы. На іншых старонках вокладкі — партрэт Лазара Богшы, выкананы А. Кашкурэвічам, помнік М. Багдановічу ў Мінску, Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку. А на развароце нумара —плакат «Іван Луцкевіч.1881—1921», работы А. Карпука. І, вядома ж, шмат у часопісе ілюстрацыйнага матэрыялу, як дапаўненне да асобных публікацый. Матэрыялы нумара змястоўныя, скіраваныя на пашырэнне і паскарэнне працэсу нацыянальнага Адраджэння, сувязяў паміж беларускім замежжам і роднай маці-Беларуссю.

Нельга не згадаць віншаванні, якія даслалі часопісу і беларусам Кліўленда А. Грыцкевіч і А. Адамовіч. Гэтыя радкі, што ідуць ад сэрца, аб'яднаны загалоўкам «Беларусы ёсць і будуць!».

Пра Ефрасінню Полацкую піша У. Арлоў у артыкуле «Вяртанне святыні».

Друкуецца працяг артыкула В. Круталевіча «28 сакавіка 1918 года ў гісторыі самавызначэння Беларусі» і публіцыстычнай аповесці-хронікі ў дыялогах Э. Ялугіна «Свечка на Дзяды».

Хораша адзначаецца 70-годдзе М. Ермаловіча. Тут і вершаванае «Слова пра Міколу Ермаловіча» Я. Гучка, напісанае яшчэ ў 1985 годзе, і прачулае слова празаічнае В. Іпатавай «Падзвіжнікі не пераваліся...».

Г. Сурмач знаёміць з экспазіцыяй унікальнага збору («Музей Івана Луцкевіча ў Вільні»).

Пастаянны аўтар «Полацака» М. Сяднёў. І на гэты раз спадар Сяднёў выносіць на чытацкі роздум развагі, якія не пакідаюць абыякавым.

А. М.

ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600. ГСП. Мінск. вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ—33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ—33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.



Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.

Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12